ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 59 (2520)
ПЯТНІЦА
13
лістапада 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Фота Ул. КРУКА.

**Андрэю Макаёнку—пяцьдзесят гадоў. Сотні, тысячы прыхільнікаў яркага, самабытнага таленту нашага вядомага драматурга вітаюць сёння юбіляра і зычаць яму далейшых творчых поспехаў.**

Слова Івана Шамякіна пра Андрэя Макаёнка—на 4-й старонцы.

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

*Споўнілася пяцьдзесят гадоў вядомаму беларускаму драматургу-камедыёграфу Андрэю Макаёнку. З поўднем веку яго сардэчна павіншавалі сябры-пісьменнікі. У прывітальным адрасе, накіраваным юбіляру праўленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, гаворыцца:*

**«Дарагі Андрэй Ягоравіч!**

**У дзень Вашага слаўнага 50-годдзя прыміце ад нас, Вашых сяброў і таварышаў па літаратурнай працы, шчырае сардэчнае прывітанне і найлепшыя пажаданні.**

**Вы прыйшлі ў літаратуру, маючы значны жыццёвы багаж, здабыты на цяжкіх франтавых дарогах. Пасля Вялікай Айчыннай вайны былі настаўнікам, некаторы час займалі адказныя камсамольскія і партыйныя пасады.**

**Першымі аднаактовымі п'есамі, што з'явіліся з-пад Вашага пяра, Вы заявілі аб сабе як аб таленавітым драматургу. Гэты жанр літаратуры стаў любімым і галоўным у Вашай творчасці.**

**Пастаўленыя на многіх сцэнах тэатраў нашай краіны Вашы п'есы «Выбачайце, калі ласка!», «Лявоніха на арбіце» расказалі нашым гледачам аб важных праблемах, якія ўзнiклі ў жыцці пасляваеннай калгаснай вёскі.**

**Вы вядомы і як кінадраматург. Па Вашым сцэнарыі пастаўлены фільм «Шчасце трэба берагчы», цёпла сустрэты крытыкай і гледачамі.**

**У апошні час шмат сіл і старання Вы аддаеце рабоце літаратурна-мастацкага часопіса «Неман», галоўным рэдактарам якога з'яўляецеся.**

**Нельга не адзначыць і Вашу добрую актыўнасць у грамадскім жыцці пісьменніцкай арганізацыі.**

**Жадаем Вам, дарагі Андрэй Ягоравіч, новых цікавых п'ес, моцнага здароўя, шчасця ў жыцці».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», далучаючыся да гэтых слоў прывітання і пажаданняў, таксама горача віншуе юбіляра і зычыць яму доўгіх гадоў жыцця і багатага творчага плёну.*

Іван ШАМЯКІН

# ПАРТРЭТ ЧАЛАВЕКА, ДРАМАТУРГА, СЯБРА

АНДРЭЙ Макаёнак расказвае пра такі выпадак са сваёй ваеннай біяграфіі.

Ён быў у вядомым Крымскім дэсанце, на Керчанскім паўвостраве. Там яго раніла. Але яму пашанцавала, як нямногім з таго трагічнага дэсанта, — удалося пераправіцца на Каўказскі бераг, у франтавы шпіталь.

Рашэнне галоўнага хірурга ва ўмовах, калі навакол сотні параненых, калі няма часу доўга задумвацца над кожным, кароткае, простае: на аперацыйны стол. Суровы прысуд: ампутацыя абедзвюх ног. Можна ўявіць, што адчуў чалавек ва ўзросце дваццаці аднаго года пасля такога прысуду — чалавек з фантазіяй, поўны душэўнай энергіі, высокіх парыванняў, імкненняў! Застацца без ног, калекам на ўсё жыццё... Але ўрач ніжэйшага ранга, які за двое сутак паспеў палюбіць жыццястойкага, вясёлага хлопца, што, нягледзячы на цяжкае раненне, знаходзіў сілы жартаваць, шапнуў Андрэю: «Не згаджайся на ампутацыю. Гангрэны няма. Ногі можна ўратаваць. Няхай эвакуіруюць у тылавы шпіталь».

Атакуючы незадоўга да свайго ранення нямецкія пазіцыі, Андрэй зняў з забітага нямецкага афіцэра парабелум і, як памятны трафей, прывёз яго ў палявой сумцы ў шпіталь разам з выпіскамі з філосафаў і ўласнымі замалёўкамі. Калі прыйшлі ўрачы і санітары з насілкамі, каб забраць яго ў аперацыйную, Андрэй паказаў ім парабелум.

У шпіталі ўзняўся вэрхал — ЧП: афіцэр, камісар роты пагражае пісталетам, абараняючы... свае ногі. Збеглася ўсё начальства. Угаворы, пагрозы, хітрасці — нічога не памагло: малодшы палітрук быў непахісны. І ніхто не адважыўся адняць у яго зброю.

Галоўнаму хірургу, напэўна, спадабалася такая своеасаблівая мужнасць маладога чалавека, і ён загадаў тут жа, на самалёце, разам з паранеымі генераламі, адвезці яго ў тылавы шпіталь. Ногі былі ўратаваны.

Амаль за трыццаць гадоў пасля таго яны, гэтыя ногі, стапталі безліч сцежак і на роднай беларускай зямлі, і на Каўказе, і ў В'етнаме, і ў Афрыцы, і ў Амерыцы — амаль на ўсіх кантынентах.

Я прыгадаў гэты выпадак таму, што ў ім асабліва ярка выявілася галоўная рыса макаёнкаўскага характару—цвёрдасць, непахіснасць, моцная воля, мэтанакіраванасць. Такім чалавекам ён застаўся на ўсё жыццё, і жыццё гартавала яго характар.

Сялянскі хлопец, актыўны вучань — удзельнік мастацкіх гурткоў, курсант, палітработнік, пасля ранення — настаўнік у горным азербайджанскім сяленні ў цяжкія гады вайны, сакратар райкома і гаркома камсамола, работнік райкома партыі, народны суддзя, журналіст і — драматург з усесаюзным імем—такі шлях за паўстагоддзя жыцця.

Чалавек па прыродзе таленавіты, Андрэй Макаёнак не адразу выбраў цярністы шлях драматурга і ва ўсялякім разе ніколі — ні ў маладыя гады, ні тады, калі атрымаў усеагульнае прызнанне, не іграў пісьменніка, як гэта робяць некаторыя з нашых калег, красуючыся і ўзвышаючыся над «смяротнымі». У жыцці Андрэй проста жыве, шырока, весела, прыгожа, і заўсёды ў самой гушчы народа, сярод тых людзей, якія рухаюць прагрэс грамадства.

Але з яго расказаў мне вядома, што любоў да тэатра, да ролі акцёра ў яго жыла са школьных гадоў. Яму хацелася стаць акцёрам, і я перакананы, што акцёр з яго быў бы не ардынарны. Вопытныя майстры сцэны ў Мінску, Маскве, Кіеве з захапленнем адзываюцца аб тым, як Макаёнак чытае свае камедыі перад калектывамі тэатраў. Усе, хто чуў, як ён чытае, трымаюцца тае думкі, што мала хто з драматургаў умее так чытаць. Андрэй, па сутнасці, не чытае, ён іграе ўсе ролі, мужчынскія і жаночыя, станоўчыя і адмоўныя, сваіх камедый.

Спрабаваў малады Макаёнак свае сілы і ў жывапісе. Не ведаю, што ў яго атрымоўвалася раней, гэты чалавек ніколі нічога не захоўвае — ні запісаў, ні малюнкаў, ні чарнавікоў. Але вісіць у яго пакоі адзіны графічны аўтапартрэт. Андрэй напісаў сябе такім, якім яго вельмі рэдка бачаць толькі самыя блізкія сябры, — у глыбокай задуме, у смутку. Я кожны раз захапляюся ў гэтым аўтапартрэце ўменнем аўтара некалькімі рысамі перадаць настрой, характар. Шкадую, што цяпер Андрэй больш не бярэ ў рукі графічны аловак, пэндзаль. А можа гэта і добра — не распыляць увагу, творчую энергію, засяродзіцца на тым відзе мастацтва, дзе адчуваеш, што можаш дасягнуць найбольшых поспехаў? Агульнапрызнана, што ў асобе Макаёнка беларуская драматургія мае дастойнага паслядоўніка Янкі Купалы і Кандрата Крапівы.

Талент драматурга ў Андрэя Макаёнка рэдкі, выключны. Сапраўдны талент увогуле рэдкасць, пра гэта казаў яшчэ У. І. Ленін. Талент камедыйны, сатырычны — з'ява яшчэ больш рэдкая, і пры агульным росце талентаў ва ўсіх галінах мастацкай творчасці сатырычныя таленты выяўляюцца не часта, ва ўсялякім разе не часцей, чым раней. І — на вялікі жаль—гаворачы з усіх трыбун палымяныя словы аб неабходнасці гумару і сатыры, мы, рэдактары і крытыкі, не так ужо шырока адчыняем перад гэтым жанрам дзверы.

У Андрэя Макаёнка талент гумарыста, сатырыка вельмі натуральны, прыроджаны, адточаны багатым жыццёвым вопытам. Драматург смяецца не толькі тады, калі зачыняецца ў кабінеце і садзіцца за рабочы стол, пачынае выдумляць камічныя сітуацыі, характары, сцэнічныя «хохмы». Не, ён смяецца кожны дзень — дома, у гасцях, у аўтобусе, на працы, на нашых пісьменніцкіх пасяджэннях.

Ёсць у мяне чалавечыя слабасці, і Андрэй, не ўзіраючы на наша даўняе сяброўства, бязлітасна і дасціпна высмейвае іх, гэтыя слабасці, ды яшчэ падбівае жонку маю і сяброў пасмяяцца. У пачатку бывае не вельмі прыемна, але, калі заставацца аб'ектыўным і самакрытычным, то не можаш не ўбачыць, што смех гэты, сяброўскі, добразычлівы, памагае табе пазбавіцца ад некаторых заган, асабліва набытых ва ўмовах нашага складанага пісьменніцкага жыцця.

Грашым мы часам у сябе ў Саюзе пісьменнікаў некаторымі бюракратычнымі захапленнямі. І Макаёнак бадай адзіны, хто смела, не ўзіраючы на рангі кіраўнікоў, высмейвае гэтыя захапленні. Смяецца ён не недзе ў кулуарах рэдакцый ці ў кафэ за столікам, а ў вочы ўсім нам. Безумоўна, не кожнаму гэта падабаецца, але ўсіх прымушае задумацца і ў выніку — смеючыся, мы развітваемся з тымі захапленнямі, якія часам скіроўваліся не на карысць справы, а на тое, каб паказаць, як старанна мы працуем. Смех яго асабліва дзейсны яшчэ і таму, што ў Андрэя ёсць выдатны саюзнік, чалавек з выключна тонкім адчуваннем гумару—Максім Танк.

Пры ўсім — без перабольшання скажам — магутным таленце шлях Андрэя Макаёнка ў драматургіі, мякка кажучы, не быў усеяны ружамі. А калі і кідалі ружы, то часта без пялёсткаў—адны калючыя шыпы.

І зараз яшчэ, праз многа год, у літаратурна-мастацкіх колах расказваюць як вясёлую прыгоду, як анекдот: адзін таварыш, які ў той час трымаўся за руль культуры, спалохаўся да шоку, прачытаўшы «Выбачайце, калі ласка!», і гатовы быў абвясціць камедыю крамольным творам. Але «крытык» хутка мусіў змоўкнуць, бо неўзабаве пачалося трыумфальнае шэсце гэтага твора — лепшага ў савецкай камедыяграфіі: «Выбачайце, калі ласка!» паставілі больш за дзвесце тэатраў, п'еса была перакладзена на ўсе мовы саюзных рэспублік, выйшла на сцэнічныя падмосткі Польшчы, Балгарыі.

Чым быў абумоўлены такі поспех камедыі? Па-першае, надзвычайнай сур'ёзнасцю тэмы, якую ўзяў аўтар, праблем, якія ён паставіў перад гледачом. Драматург загаварыў пра самае жыццёвае — пра хлеб, якога тады, васемнаццаць год назад, не хапала, і пра тыя праблемы, без вырашэння якіх цяжка было вырасціць хлеба больш. Хто мог застацца абыякавым да хлеба?

Па-другое, расказаў пра ўсё гэта аўтар весела, жыццярадасна, бязлітасна выкрываючы сродкамі сатыры тых, хто перашкаджаў рашэнню важнейшых праблем, і з іскрыстым гумарам рысуючы характары станоўчых герояў.

Задача кожнага пісьменніка не проста праінфармаваць чытача, гледача аб той ці іншай, няхай і значнай, цікавай падзеі, а стварыць жыццёва-праўдзівыя сацыяльныя тыпы, характары. Персанажы «Выбачайце, калі ласка!» са сцэны пайшлі ў жыццё. Я не аднойчы радаваўся і нават па-творчаму зайздросціў Макаёнку, калі ў самых глыбінках — у калгасах, у райцэнтрах чуў кароткія і вычарпальныя характарыстыкі канкрэтным людзям: «Калібераў», «А гэта Моцкін», «Ну, гэты — хоць круць-верць, хоць верць-круць», — і слухачы ведалі, аб кім ідзе размова і весела смяяліся.

Ёсць яшчэ адзін крытэрый высокай вартасці твора сацыялістычнага рэалізму, яго сацыяльнай значнасці, актуальнасці — твор нацэльвае ўвагу грамадскасці на неабходнасць вырашэння тых ці іншых пытанняў эканомікі, культуры, якія пастаўлены жыццём, яго няспынным рухам. Прайшоў год, як «Выбачайце, калі ласка!» шырока пайшла ў тэатрах — і аб тых жа праблемах вялася сур'ёзная размова на Пленуме ЦК КПСС.

У гэтым плане цікавая гісторыя «Лявонiхі на арбіце». Камедыя параўнаўча лёгка прайшла на сцэну Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і была цёпла сустрэта гледачамі, тэатральнай грамадскасцю.

Цікавая дэталь: спектакль здаваўся ў дзень палёту першага чалавека — Юрыя Гагарына — у космасе, якраз раніцой, калі касманаўт выйшаў на арбіту. Недзе ў сярэдзіне было перапынена сцэнічнае дзеянне, і Зінаіда Браварская аб'явіла гэтую радасную навіну. Уздым у зале быў надзвычайны. Пачалі іграць далей, і Барыс Платонаў, які іграў Лявона, у рэпліку «Мая Лушка выйшла на арбіту» дадае: «як Гагарын». Шчыра кажу, ніколі і нідзе, ні ў адным тэатры, ні на адным сходзе, я не чуў такога грому апладысментаў, як пасля гэтых слоў. Здавалася, узарвецца столь залы.

Вобразна кажучы, камедыі быў дадзены касмічны старт.

Але — дзіўная рэч — твор, так горача прыняты гледачамі, быў холадна сустрэты літаратурнымі крытыкамі. Некаторыя з іх, дарэчы, непавярхоўныя людзі, разумныя, да думкі якіх мы прыслухоўваемся, лічылі, што праблематыка твора надуманая, што калгасная рэчаіснасць прыўкрашана, што, маўляў, няма яшчэ такіх Лушак і такіх канфліктаў і г. д. Пры гэтым чамусьці ігнаравалі другую калізію, звязаную з вобразам Глуздакова, які для таго часу быў бясспрэчным адкрыццём.

Прайшоў час — і што ён выявіў? Безумоўна, тое, што вышкі, з якіх

### Аўтар п'есы — Адрэй Макаёнак

**Сотні тэатраў краіны ігралі і іграюць п'есы А. Макаёнка. З творчых маршрутаў яго камедый мы выбралі тры. На першым здымку—сцэна са спектакля «Выбачайце, калі ласка!» ў Дзяржаўным акадэмічным тэатры драмы Літоўскай ССР. Побач — здымак, на якім вы бачыце артыстаў сонечнай Туркменіі ў камедыі «Лявоніха на арбіце» (Туркменскі дзяржаўны тэатр драмы імя Маланепеса). А зусім нядаўна Беларускі тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску паказаў прэм'еру новай камедыі А. Макаёнка «Трыбунал» (трэці здымак). Рэжысёр — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі, мастак — народны мастак БССР Я. Нікалаеў, кампазітар — Я. Касалапаў. У ролі Цярэшкі Калабка выступаюць заслужаны артыст рэспублікі І. Матусевіч і акцёр Г. Дубаў, яго жонку Паліну іграе заслужаная артыстка БССР З. Канапелька.**





глядзелі крытыкі, былі залішне нізкія, недалёка з іх было відно, і не глыбока аналізаваліся працэсы, тэндэнцыі ў калгасах. А гарызонт драматурга быў шырокі, глядзеў ён глыбока і бачыў больш за сваіх калег-крытыкаў.

Пасля «ЛявонІхі» ў Макаёнка была працяглая — некалькі год — творчая паўза, ён аддаваў увесь час рэдагаванню «Немана», паставіўшы мэту: зрабіць яго лепшым часопісам. Але няма сумнення, што і ў гэтыя гады у драматурга ішла напружаная праца — тая, якая нікому іншаму не бачна, якую мы ўмоўна называем вывучэннем жыцця, творчымі пошукамі і г. д.

Будзем лічыць, што ў выніку гэтых пошукаў Макаёнка ўрэшце «прарвала»: за кароткі час, за нейкія два гады, ён стварае тры камедыі, кінасцэнарый, сёння (выдам сакрэт) на стале ў яго новая п'еса, амаль гатовая. Але справа не ў колькасці. Усё, што выйшла з-пад пяра драматурга, па-ранейшаму, па-макаёнкаўску, вострае, вясёлае і яшчэ больш, чым папярэднія рэчы, глыбокае па думцы, па філасофскім асэнсаванні жыцця. Гэтымі якасцямі ў прыватнасці вызначаецца бліскучая, на думку ўсіх, хто яе чытаў, камедыя «З кірмашу». Гэта той твор, які памог бы людзям, смеючыся, пахаваць многія памылкі і заганы мінулага. Можна толькі пашкадаваць, што камедыя дагэтуль не пастаўлена. Тэма жыцця там, у старым, капіталістычным свеце, не новая для Андрэя Макаёнка, па сутнасці, ён з яе пачынаў: яго першая п'еса «На досвітку»—аб барацьбе французскага народа за мір—з поспехам ішла ў купалаўскім тэатры. Новая камедыя «Зацюканы апостал» надзвычай вострa, у незвычайных сітуацыях, у гратэскава-абагуленых вобразах выкрывае ўсю гніль сучаснага буржуазнага грамадства, убоства яго філасофіі, разбэшчанасць нораваў, занядбанне ўсіх маральных прынцыпаў.

Бадай няма больш цяжкай задачы ў драматургіі, як арганічна аб'яднаць у адно цэлае камедыйнае і трагедыйнае. Не ўсе нават з тых, хто абяссмяроціў імя сваё, адважваліся на такі крок.

Сёння на афішах многіх тэатраў Расіі, Украіны, Літвы пад імем **Андрэй Макаёнак** надрукавана вялікімі літарамі пагрозлівае слова «Трыбунал» і яшчэ ніжэй—«Трагікамедыя. Народны лубок». Так драматург вызначыў жанр свайго новага драматычнага твора. Вызначыў, па-мойму, вельмі трапна і дакладна. Так расказаць аб самым страшным выпрабаванні—вайне, фашысцкай акупацыі, аб барацьбе народа, аб яго маральнай сіле і патрыятызме мог толькі сам народ. На гэтую тэму мы напісалі нямала добрых раманаў, аповесцей, паэм, драм. Але—без перабольшання—мала каму з нас, нават на 30—40 аркушах, удалося так раскрыць вытокі і сілу патрыятызму простага савецкага чалавека, так ярка, так пераканаўча, як гэта зрабіў Андрэй Макаёнак у трагікамедыі, якая займае ўсяго дзве гадзіны сцэнічнага часу.

Андрэю Макаёнку споўнілася 50 год. Кажуць, што гэта ўзрост, калі прыходзіць да чалавека сапраўдная сталасць. Да драматурга Макаёнка сталасць прыйшла значна раней. Што ж датычыць чалавека, то можна толькі парадавацца, што ў Андрэя гэтая сталасць, як у некаторых іншых не перайшла ў робленую сур'ёзнасць, пыхлівасць, абыякавасць да людзей, замкнёнасць. Сённяшні юбіляр паюнацку абаяльны з выгляду, малады па думках, поглядах, паводзінах, па адносінах з людзьмі, па цікаўнасці да ўсяго, што адбываецца ў свеце.

Што ж пасля гэтага пажадаць табе, Андрэй? Так і трымайся. Жыві паўнакроўна. Працуй на радасць гледачам. Дзярзай. І заўсёды май пры сабе «парабелум» (творчы), каб абараніцца ад залішне паспешлівых «хірургаў».



**БЕЛАРУСЬ АРХІТЭКТУРНАЯ**

# АД АДНАГО ДА ШАСНАЦЦАЦІ

Яшчэ нядаўна дзевяціпавярховыя дамы былі рэдкасцю ў нас і сапраўды ажыўлялі пяціпавярховую забудову. Але зараз іх будуецца ўсё больш. «Кропачныя» і «працяглыя»— яны складаюць касцяк мікрараёнаў, становяцца радавымі, губляюць вядучую кампазіцыйную ролю. Для архітэктурнай выразнасці новых раёнаў патрэбны дамы большай павярховасці.

Дванаццаціпавярховыя будынкі, вопыт будаўніцтва якіх ужо ёсць у Беларусі, не выдзяляюцца на фоне дзевяціпавярховых. Таму зараз у «Мінскпраекце» распрацоўваюцца праекты тыпавых шаснаццаціпавярховых дамоў для індустрыяльнай забудовы ў мікрараёнах. На здымку ўверсе—работа архітэктараў Д. Кудраўцава, Г. Каласкова, Н. Шпігельмана і інжынера Я. Разоўскага—каркасны поўназборны дом кропачнага тыпу. Яго першы паверх адводзіцца пад гандлёвыя прадпрыемствы. Планіроўка кватэр распрацавана па нормах 1975 года. Дом плануецца пабудаваць у мікрараёне «Усход-2».



На другім здымку праект дома, які ўжо пабудаваны ў пасёлках калгаса «Савецкая Беларусь», што на Брэстчыне, і саўгаса «Любань» Мінскай вобласці. Гэта таксама тыпавы праект. Яго распрацавалі ў інстытуце «Белгіпрасельбуд» архітэктары Г. Заборскі, Л. Кузняцова і інжынер Г. Бусловіч. У такіх дамах будуць жыць адзінокія калгаснікі - пенсіянеры Дом гэты складаецца з чатырох аднапакаёвых кватэр, з якіх дзве плошчай па дзевяць квадратных метраў, дзве—па васемнаццаць. Кожная кватэра мае асобную кухню, санвузел, уваход. Шэсць жыхароў гэтага дома могуць сустракацца ў агульнай гасцінай, дзе прыемна пагаварыць, пагуляць у карты, паглядзець тэлевізар. У гасцінай ёсць камін, каля якога добра пасядзець, калі на двары мароз і завея. Веранды і сцены ўпрыгожаны разьбой па дрэве.

Гэтыя дамы не падобны адзін на аднаго, але ўсё ж такі ёсць нешта, што іх яднае—гэта індустрыяльны спосаб будаўніцтва. А гэта значыць, што з цягам часу такіх прыгожых, зручных і патрэбных дамоў будзе шмат.

**К. ЯДВІГА.**



# ПАРТЫЙНАМУ З'ЕЗДУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*З пасяджэння прэзідыума праўлення СП Беларусі*

9 лістапада ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення СП БССР.

Адкрываючы пасяджэнне, другі сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Шамякін адзначыў, што літаратары рэспублікі, як і ўсе працоўныя краіны, рыхтуюць дастойную сустрэчу XXIV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, імкнуцца напоўніць свае творы значным мастацкім і высокаідэйным зместам.

І. Шамякін падрабязна спыняецца на рабоце Пленума праўлення СП СССР па пытаннях развіцця савецкай драматургіі, кіно і тэлебачання, які нядаўна адбыўся ў Маскве. падзяліўся сваімі ўражаннямі аб ім.

Ад імя сакратарыята СП Беларусі ён уносіць прапанову склікаць у першай палове снежня гэтага года Пленум Саюза пісьменнікаў БССР, на якім разгледзіць сучасны стан развіцця беларускай драматургіі, драматургіі кіно і тэлебачання.

— Ужо цяпер, — гаворыць далей І. Шамякін, — нам трэба паклапаціцца і аб падрыхтоўцы да VI з'езда пісьменнікаў рэспублікі, які мы плануем правесці ў другой палове красавіка будучага года.

Пра свята беларускай савецкай літаратуры, прысвечанае партыйнаму з'езду, расказаў сакратар СП БССР Мікола Ткачоў. У дні свята плануецца наладзіць масавыя выезды пісьменнікаў у вобласці рэспублікі, расказаць працоўным пра тое, што зроблена нашымі літаратарамі, пазнаёміць шырокія колы грамадскасці з новымі творамі нашай літаратуры.

Вырашана, што свята беларускай літаратуры пачнецца ў канцы гэтага месяца — у Віцебскай і Брэсцкай абласцях. У склад брыгад, акрамя літаратараў, будуць запрошаны чытальнікі — артысты Беларускай дзяржаўнай філармоніі, студэнты тэатральна-мастацкага інстытута.

Анатоль Вярцінскі выказаў думку, што свята павінна шырока адзначацца і ў самім Мінску.

Абмяркоўвалася на пасяджэнні пытанне аб скліканні рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў. Улічваючы, што вакол абласных аддзяленняў СП БССР групуецца нямала маладых літаратурных сіл, было прапанавана правесці занальныя нарады маладых у Магілёве і Брэсце.

У гаворцы, якая адбылася на пасяджэнні, прынялі ўдзел Максім Танк, Кандрат Крапіва, Янка Брыль, Іван Мележ, Максім Лужанін, Васіль Вітка, Аляксей Кулакоўскі, Алесь Бачыла, Генадзь Бураўкін, Алесь Шашкоў, Пётр Шасцерыкоў, Міхась Калачынскі, Іван Грамовіч і іншыя.

На пасяджэнні прэзідыума СП БССР былі прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Аркадзь Кандрусевіч і Эдуард Скобелеў.

# ЯНЫ ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ



**Празаік Аркадзь Кандрусевіч.** Нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Ламачы Хойніцкага раёна. Скончыў Мазырскае педагагічнае вучылішча і Ленінградскае мастацка-графічнае вучылішча. Працаваў настаўнікам пачатковай школы. З 1960 года — супрацоўнік газеты «Магілёўская праўда». Літаратурнай працай займаецца з 1964 года. Выпусціў кнігу апавяданняў «Чарпак Вялікай Мядзведзіцы».

**Паэт і празаік Эдуард Скобелеў.** Нарадзіўся ў 1935 годзе ў горадзе Мінску. Скончыў Маскоўскі інстытут міжнародных адносін. Літаратурнай працай займаецца з 1954 года. У выдавецтве «Беларусь» выйшла кніжка вершаў «Дарога». У 1969 годзе ў часопісе «Неман» апублікаваў раман «Крокі за тваёй сцяной». Член КПСС.



## ...«НАША РАДЗІМА Ў МАСТАЦКІХ ФАТАГРАФІЯХ»

—так называецца вялікая выстаўка, экспазіцыя якой разгорнута ў Манежы — Цэнтральнай выставачнай зале Масквы. Каля 500 фотамайстроў краіны паказваюць свае лепшыя работы.

На Усесаюзнай выстаўцы прадстаўлены і работы майстроў мастацкай фатаграфіі Беларусі —М. Ананьіна. В. Бараноўскага, Л. Папковіча, В. Ждановіча, В. Казлова, В. Дубінкі, В. Мяжэвіча, Г. Бяліцкага і іншых.

# ПЕРААДОЛЕННЕ

Адзін з лепшых вершаў, якія склалі новы зборнік Бранiслава Спрынчана «Черты лица», — верш «Пераадоленне». Прыгадваючы сваё рабочае мінулае (Спрынчан некалькі год назад працаваў у кавальскім цэху «Гомсельмаша»), паэт піша аб тым, як, на яго думку, пераадольваецца нялёгкі шлях ад вучня да майстра. Спачатку

...в молодых руках напильник
не пилит что-то ни черта.

Нямала прыходзіцца папацець і пахваляваццa пачынаючаму рабочаму раней, чым прыёмшчык вымавіць сваё сакраментальнае: «Добро!»

Но вот, в конце концов, без фальши
запел напильник твой впервой.
И ты к тому, что делать дальше, —
Дошел своею головой.

Такім чынам, адна з прычын, якія перашкаджалі авалодаць справай, была яшчэ і фальшывая «песня» інструмента. Яна ўводзіла ў зман неспрактыкаванага працаўніка. А што спрыяла яго вучобе, яго поспеху? Што, апрача маладых сіл і гарачага жадання, забяспечвала магчымасць стаць майстрам? Аўтар адказвае так:

Лишь с появленьем чувства меры —
Того особого чутья,
Ты, может быть,
проникнешь в сферы
Не только серого литья...

І далей:

Конечно, ты еще не мастер,
Хотя не только ученик,
Поскольку в суть вещей отчасти
Самостоятельно проник.

Нельга тут не пагадзіцца з паэтам. Так, сапраўды, для таго, каб дасягнуць майстэрства, каб твая праца была не толькі сляпым, фізічным намаганнем, а асэнсаваным, творчым актам, патрэбны самастойнасць, пошук, выхаванне ў сабе пачуцця меры.

Верш «Пераадоленне» лёгка праецыруецца і на саму літаратурную працу паэта. Тым больш, што ён, як я ўжо гаварыў, мае аўтабіяграфічны характар і з'яўляецца спробай асэнсаваць учарашні вопыт з сёняшняга пункту гледжання. Трэба сказаць, што паэтычнае вучнёўства таксама нялёгка давалася Спрынчану. Яго пяро, як і той напільнік, таксама вапачатку слізгала па паверхні, не ўразалася ў жыццёвы пласт, фальшывіла. Часта вершам не хапала жывога дыхання, эмацыянальнай напоўненасці, значнай думкі. Асабліва гэта датычылася вершаў на так званую вытворчую тэму. Тут паэт збіваўся на просталінейнасць, на плакатную рыторыку, а, з другога боку, на ўяўную паэтычнасць. Папярэдняя кніга «Плаўка» сведчыла, што Браніслаў Спрынчан не задавальняецца зробленым, імкнецца «пранікнуць у сферы не толькі шэрага ліцця». Звярталі на сябе ўвагу вершы-роздум, вершы, у якіх паэт думае, асэнсоўвае, спрабуе па-філасофску глядзець на факты і з'явы, у тым ліку і на працу, на яе вынікі. Калі да гэтага ён проста апісваў «вогненныя віхуры» сталі, бачыў вагранку, але не заўсёды бачыў самога чалавека, бачыў піку ў руках гарнавога, але не звяртаў асаблівай увагі на яго твар, то цяпер для яго, напрыклад, тое ж параджэнне сталі набыло ўжо і іншае значэнне. Апісаўшы ў вершы, які так і называецца «Нараджэнне сталі», працэс плаўкі, аўтар раптам пытаецца:

Только всяк ли озабочен
Будущей судьбою стали:
плугом,
лопастью рабочей, —
или побрякушкой станет?
Песней зазвенит над нивой
или, лопнув где в забое,
обернется несчастливой
человеческой судьбою?
Огненной струёю ярко
сталь в изложницу вбежала.
Станет скальпелем хирурга,
смертным жалом ли кинжала?

«Только всяк ли озабочен» — гучыць пытанне, гучыць клопат, які прыйшоў у выніку роздуму паэта. Верш «Нараджэнне сталі» быў для яго ў пэўным сэнсе пераломным. У гэтым пераконваешся, калі чытаеш зборнік «Черты лица» (сімптаматычная сама па сабе і назва) і знаходзіш у ім такія дасканалыя, напісаныя і з пранікненнем у сутнасць рэчаў, і з пачуццём мастацкай меры, вершы, як «Предвесне», «Алень», «Памяць», «У музеі», «Доннік», «Супярэчнасці», «Жыццё шматграннае і кантрастнае...» і інш. Адзін з іх («У музеі») развівае тую ж думку, якой прадыктаваны толькі што цытаваныя радкі. Паэт разглядае музейныя экспанаты, зробленыя майстрамі мінулага, бачыць, як

Контрастно на фоне цветастых ковров
Лоснятся кольчуги, колчаны и плети...

І яго, як токам, пранізвае адкрыццё:

Постой! Неужели служило искусство
И тем, кто с кинжалом ходил на разбой?
Червонного золота черен меча,
По лезвию смерть извивается вязью —
Мне тонкая вязь представляется связью
Руки ювелира с рукой палача.
Рука кузнеца и убийцы рука —
Пожалуй, что в трудной судьбе человечьей
Трагичнее не было противоречий,
Чем это, прошедшее через века.

Супярэчлівасці.... Пра іх паэту гавораць музейныя экспанаты, іх ён бачыць вакол, у жыцці і прыродзе, бачыць, гаворачы словамі філосафа, непазбежнасць і адзінства супрацьлегласцей («Из противоречий возникала нужная для жизни острота»), і настойліва, з верша ў верш, піша пра гэта — пра складанасць, шматграннасць і супярэчлівасць жыцця. «А в том, что нет в олене лени, повинен все же серый волк», — зазначае ён у адным вершы. «Всё — со своею подоплекой», — такі вывад робіцца ў наступным творы. «Мать-земля за долгий век зло с добром переплела...» — чытаем далей і г. д. Поўнасцю хочацца мне прывесці гэты вось глыбокі па змесце і па-майстэрску зроблены верш:

Жизнь многогранна
и контрастна:
То ворон каркнет в вышине,
То соловей зальется страстно
На ветке в гулкой тишине.
Поет — и море по колено.
Не видит, закатив глаза,
Не чует, выводя колена,
Что зарождается гроза.

Но виден воронову глазу
Мир обнаженный без прикрас.
За три столетия ни разу
Еще он не впадал в экстаз.
Он зорче соловья и чутче,
Учуял дьявольским нутром,
Что в той вон безобидной туче
К утру созреет страшный гром.
И ворон, до поры безмолвный,
Спокойно каркнул, мол, пора —
Туда, где соловьев вчера
С дубов сшибали стрелы молний.

Дакладна ўбачаным, рэалістычным малюнкам вызначаюцца лірычныя вершы паэта, прысвечаныя дзяцінству («Памяць», «Дзяцінства»), роднай прыродзе («Весна! — И в сердце, и в природе...», «Пора сокодвиженья», «На дорогах предапрелья...»), жанчыне («За сутолокой переправ...», «Напряженная, как тишина...»), простым працаўнікам («У кузні», «Гарнавы»). Яны, апрача ўсяго іншага, сведчаць яшчэ і аб тым, што Браніслаў Спрынчан паспяхова авалодвае ўменнем падаваць сваё асабістае, унутранае ў адзінстве са знешнім, паказваць сваё праз агульнае і наадварот. На жаль, некаторыя вершы залішне зацягнуты. Аддае яшчэ парой аўтар даніну і ўяўнай паэтычнасці, «красивостям», як бы апраўдваючы свой радок: «...всегда пою на лад весенний». Дарэчы, гэтыя самыя «красивости» шкодзяць трохі і невялікай паэме «Хатынь» — даволі ўдалай спробе паэта выступіць у такім, новым для яго жанры і паказаць хатынскую трагедыю праз вобраз каваля Іосіфа Камінскага.

Калі ж рэзюміраваць, то кніга «Черты лица» сведчыць аб сур'ёзным творчым росце яе аўтара, аб тым, што адным з сакрэтаў гэтага росту з'яўляецца тое, што Б. Спрынчан «в суть вещей отчасти самостоятельно проник».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

Браніслаў Спрынчан. «Черты лица». Вершы і паэма. На рускай мове. Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# НА ПАЛЕСКІХ СЦЕЖКАХ

Уладзімір Аляхновіч, якога раней мы ведалі як аўтара паэтычнага зборніка «Мора летуценняў», сёлета выступіў перад чытачом з кнігай прозы «Палескія навелы». Гэта — абразкі, выкананыя на добрым мастацкім узроўні, пра палескую прыроду, пра людзей, якія заняты сваімі паўсядзённымі справамі.

Кніга складаецца з трох раздзелаў: «Пацеркі ў небе», «Параненыя дрэвы» і «На Прыпяці». Такі падзел выразней адцяняе думкі аўтара, групуе паасобныя чалавечыя характары; яны — цэласны расказ пра адносіны між людзьмі і ўзаемаадносіны чалавека з прыродай.

У складзе вышуковых экспедыцый аўтар даследаваў багацце балоцістага краю, поплеч са сваімі таварышамі пракладваў сцежкі праз лугі і палеткі. Робячы адзнакі ў тапаграфічнай карце, ён адначасова занатоўваў у дарожны блакнот свае ўражанні і назіранні над людзьмі, з якімі сустракаўся. Надзелены здольнасцю прыкмячаць у мностве жыццёвых пояў адметнае і характэрнае, ён змог данесці ўсё гэта і да нас у сваіх кароткіх, нібы эскізных накідах-навелах.

Трэба адзначыць, што пры ўсёй «лёгкасці» пісьма, яго «непрымусовасці», пры ўсёй уяўнай прастаце ў выбары формы і зместу апавядання бачна заклапочаная ўвага маладога празаіка да слова, вобраза. Каб паўней адчуць тое, што хацеў сказаць аўтар гэтымі апавяданнямі, пэўна, трэба глядзець на іх так, як глядзім мы на карціны мастакоў, — трэба адысціся ад палатна на некалькі крокаў, выбраць найбольш удалы ракурс. Менавіта так трэба «чытаць» «Палескія навелы» Ул. Аляхновіча, г. зн. паглядзець на іх ва ўсім аб'ёме і паўнаце. І наадварот, каб заўважыць тое, што складае гэтае палатно, якія фарбы на ім, неабходна наблізіцца да карціны, паспрабаваць, як кажуць, на «дотык». І тады мы пераканаемся ў тым, што кожная мастацкая дэталь не толькі з любоўю выпісана, але і напоўнена сур'ёзнай думкай.

Большасць «Палескіх навел» — гэта вершы ў прозе. Хіба толькі з той розніцай, што аўтар не скованы рыфмай і рытмамі, ужывае такія словы і звароты, якія больш поўна перадаюць яго стан душы.

«Дарога Свіслач — Ціхая Воля... Вузкім тунелем яна высечана ў аксамітным масіве алешніку. Алешыны стаяць у ціхай нерухомасці. Ад галін цягне свежасцю і водарам. Дарога выслана сухім леташнім лісцем. Добра ехаць гэтым шляхам на веласіпедзе», — так пачынаецца навела «Вароты ў зялёны край».

Гэта і пачатак нашага знаёмства з Палессем. Услед за аўтарам, зачараваныя мілым і непаўторным краявідам, мы пойдзем ад адной вёскі да другой. На старонках кнігі мы сустрэнем нямала людзей, паслухаем іх размовы, падзівімся іх дасціпнаму і тонкаму разуменню жыцця, пачуем даўнюю легенду, адчуем боль дрэў, якія асуджаны на гібель з часоў вайны, наведаем хату дзеда Талаша, знойдзем цікавыя звесткі аб «стольным градзе» Тураве і многае-многае іншае. І ўсё гэта не пакіне нас раўнадушнымі, а абудзіць патаемныя струны душы. І потым мы яшчэ доўга будзем хадзіць пад уплывам нашага падарожжа па зямлі палешукоў, жыць іхнімі клопатамі, турботамі.

А будзем мы думаць таму, што пра ўсё расказана пісьменнікам праўдзіва, без «падмалёўвання» і «падцягвання». Часам сацыяльныя і грамадскія партрэты іх як быццам не завершаны, проста выхаплены з жыцця.

Ул. Аляхновіч умее знайсці і дакладнае слова, і свежы вобраз, можа гаварыць сцісла, ёміста, з эмацыянальна-прыўзнятым настроем. Аднак, захапляючыся знешнім бокам малюнка, эфектным яго пераносам на тканіну апавядання, аўтар іншы раз быццам не давярае сабе, прыглушае ў сабе даследчыка, аналітыка. Наша ўяўленне аб людзях, з якімі знаёміць нас празаік, адбываецца на своеасаблівых контрапунктах, калі гэтыя людзі стаяць перад рашэннем той або іншай задачы, за якой неадкладна наступае дзеянне. Але мы бачым хутчэй «механічныя» ўчынкі, чым работу іх, вынікі іх разважанняў, пэўныя зрухі ў іх душы. Менавіта гэтага — унутранай абумоўленасці ў паводзінах людзей, вызначэння істотных праяў у іхніх характарах — часам не адчуваеш у асобных абразках Ул. Аляхновіча, што, безумоўна, некалькі псуе цэласнае ўражанне ад гэтай увогуле цікавай кніжкі.

**В. ПОЛЯК.**

Уладзімір Аляхновіч. «Палескія навелы». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.

# СА СКАРБНІЦЫ РОДНАЕ МОВЫ

Мова — найвялікшае нацыянальнае багацце. А між тым лексічныя багацці роднай мовы збіраюцца ў нас вельмі марудна, хоць пачатак гэтаму быў пакладзены больш стагоддзя назад працаю І. І. Насовіча.

Праўда, некаторая частка дыялектнай лексікі была сабрана ў 20-х гадах. Зборы 30-х гадоў, мусіць, загінулі. І толькі ў пасляваенны час выйшаў фундаментальны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» і некалькі дыялектных слоўнікаў. Але якія незлічоныя скарбы шчодра рассыпаны ў беларускіх гаворках! Пра гэта сведчыць укладзены П. Сцяцком «Дыялектны слоўнік».

У ім растлумачана ўсяго каля 2500 слоў, якія не зарэгістраваны «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962) або маюць семантычныя адрозненні.

Слоўнік падрыхтаваны на аснове роднай для аўтара зэльвенскай гаворкі. Але ў ім зафіксавана многа цікавых і арыгінальных слоў, якія могуць выйсці за межы толькі мясцовай гаворкі. Яны маюць вельмі празрыстую семантыку, і ў кантэксце без цяжкасцей угадваецца іх сэнс, як вось у гэтым сказе: «Ад'елася, **рукі — пачынкі, і касцей не дамацаешся».** Або: **«За кульку бярэшся праваю рукою і водзіш касу».** Наўрад ці патрабуюць спецыяльнага тлумачэння словы **пачынкі** і **кулька.** Дзякуючы яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўцы шмат якія словы гавораць самі за сябе: **уцюцькацца** (гультайнічаць), **негадзіна** (непагода, час суровых выпрабаванняў), **цяцерыць** (гаварыць пустое), **падперціся** (атрымаць дапамогу), **уручкі** (поўна з драбінамі), **паражняваць** (бяздзейнічаць), **знябожыцца** (прыняць пакорны выгляд), **шамрэць** (багата апранацца) і інш. У народзе ўмеюць надзвычай трапна і дакладна выразіць сэнс таго ці іншага паняцця. У літаратурнай мове агульнавядомым з'яўляецца слова **басаножкі.** А вось зэльвенцы гавораць **вятроўкі.** З не меншай дакладнасцю выражаюцца паняцці словамі **кудзельніцы** (вячоркі) і **кудзельніца** (удзельніца вячорак).

Вось яшчэ некалькі такіх сакавітых слоў: **снягоўцы** (жаночыя гумовыя боцікі), **сноўніца** (прыстасаванне для снавання кроснаў), **глюз** (плесня на скуры сала).

Рэгіянальныя слоўнікі даюць багаты матэрыял для параўнальнага вывучэння розных дыялектных сістэм. Такое параўнанне гаворыць пра жыццястойкасць шмат якіх дыялектных слоў. Слоўнік Зэльвеншчыны адзначае, напрыклад, цэлы шэраг слоў, якія актыўна бытуюць з тым жа значэннем на ўсходзе рэспублікі: кругі, прыскрынак, прачуханка, скосак, сталюгі, убоіна і інш. Некаторыя ж словы ў гэтых дыялектных сістэмах маюць рознае значэнне.

Слоўнік П. Сцяцка паказвае, якія сапраўды невычэрпныя багацці захоўваюцца ў народных гаворках. Адначасова ён з'яўляецца сведчаннем, што гэтыя скарбы вышукваюцца яўна недастаткова. У гаворках вельмі многа слоў, якія маюць права на літаратурнае існаванне, але, непадслуханыя, незапісаныя, яны недаступны пісьменніку, журналісту, лектару, лінгвісту-даследчыку.

Дыялектныя слоўнікі павінны выдавацца часцей.

**Г. ЮРЧАНКА.**

П. Сцяцко. «Дыялектны слоўнік». (З гаворак Зэльвеншчыны). Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1970.

## Паэтычная паверка

### Алег ЛОЙКА

### З НЯМЕЦКАГА СШЫТКА

### ВАРТБУРГ — ГОРАД ЧАКАННЯ...

Вартбург — равеснік Мінска,
Лютэр — сучаснік Скарыны...
Вітай нас, часе няблізкі,
Часе — аленю няспынны!..

Вартбург — горад чакання,
А, значыцца, і разлукі:
Выплывалі з туману,
Чэзлі ў ім Нібелунгі.

Можа, якраз і Скарыну
Прымаў тут Лютэр натхнёны,
І я падымаўся сёння
Сюды па слядах яго́ных,

І адыйду, растану
Белым аленем туману?..

Вартбург — горад чакання,—
Чакаць, аднак, не перастане.

Каго і чаго?.. Спатканні...
Незабыўныя госці...
Вартбург — сімвал чакання —
Спрадвечнага —
кімсьці
чагосьці...

### СТУДЭНЦКІ ПАДВАЛЬЧЫК «КЕЛЕР РОЗА»

Што за падвальчык—«Келер
Роза»!
Студэнты піва п'юць цвяроза...

Як лук, напятыя скляпенні,—
Ах, што за піва ў белай пене!..

А бутэрбродаў шык мадэрны,—
Нішто ўсе сто гаштэтаў Ены!..

Больш і філасофаў у «Розе»,
Чым на Філасофаў Дарозе!..[1]

[1] Дарога Філасофаў, Гётэва Алея—назвы вуліц.

А будучае прафесуры,
Паэтаў, членаў асамблеяў,—
Іх тройчы больш, чым бюстаў
хмурых
На слаўнай Гётэвай Алеі!..

Бармены носяць куфлі шпарка,
І кожны змоўніцкі міргае,
Што Еваў больш тут, чым у парку,
Што называюць енцы Раем!..

Ах, што за келер — «Келер
Роза»!..
Студэнты піва п'юць цвяроза...
Хто ў ім не падпіраў скляпенняў,
Лічыце — не бываў у Ене!..

### ЛЯ ЧАШЫ З ПОЛАЦКАГА ЗОЛАТА

Які з курфюрстаў вусы мачыў,
Шумлівае піва ўздымаўшы,
Якому з іх Іван Грозны ўручыў
Са шчырага золата чашу,

Не ведаю. Надпіс гаворыць адно:
«Дарунак цара Івана»,
Рымскімі цыфраміззяе anno,[1]
Калі, мабыць, падаравана,

А на карталюшчы: «З Полацка
скарб
Узяты пайшоў на кляйх...»
Ён не паскупіўся, грозны цар,
«Отторженная возвратих»!..

Дзяліў, перадзельваў!..
Як мне да таго,
Дык сёння зусім усё роўна:
Ні поп, што прад сонмам хмурых
багоў
Слюнявіў крыжы,
мне не кроўна,

Ні з потнымі прыгаршчамі купец,
Што грыўну да грыўны
прыхоўваў,—
Ліхому — заслуга ліхі капец,
Калом зямля ліхому!..

Ды я пра другое падумаў на міг:
А што, як пузаты кубак —
Насечак, маністаў, узораў літых,
Пярсцёнкаў аздобных загуба?..

І колькі лягло іх на плоскім дне,
Каб вус рыжы мок, нібы ў чане?!,
Сэрца зацялася: ва мне
Бунтаваў палачанін!..

[1] anno — (лацінск.) год.

---

## Цырк

# ЦІ ЦЯЖКА БЫЦЬ ЛЮБІМЫМ?

*«Сонечны клоун» адказвае на пытанні карэспандэнта «ЛіМа».*

Алег Папоў. Гэтае імя магічна вабіць да сябе людзей. Варта толькі вымавіць яго — і твар юнака, і твар старога азорыць усмешка.

Алег Папоў. Афішы з гэтым імем абляцелі дзесяткі краін свету. Варта яму з'явіцца ў любым горадзе — і адразу знаходзяцца тысячы прыхільнікаў яго таленту.

Алег Папоў — клоун. Але ён яшчэ выдатны драматычны акцёр, жанглёр, музыкант, фокуснік, дрэсіроўшчык. канатаходзец, майстра пароды... І ўсё гэта ён выконвае не проста на высокім прафесіянальным узроўні — ён робіць гэта з добрым гумарам, натхнёна, артыстычна, лёгка. Так лёгка, што міжволі думаеш — і ты так здолеў бы. Што, здавалася б, цяжкага — кідай каструлі, а потым лаві іх. Спачатку большую, потым у яе — меншую, потым яшчэ меншую і, нарэшце, века. Альбо прайсціся па слаба нацягнутым дроце, прылегчы на ім перадыхнуць, скінуць і апрануць пінжак, пастаяць на адной назе і г. д.



Народны артыст СССР Алег Папоў упершыню ў Мінску. Але мы добра ведаем яго па шматлікіх кінакадрах, тэлевізійных перадачах, фатаграфіях.

З афіш глядзіць на нас вясёлы чалавек у вялікай кепцы ў шашачку. Білеты на ўсе прадстаўленні прададзены. Але карыстаючыся, як заўсёды ў такіх выпадках робяць журналісты, усімі праўдамі і няпраўдамі, мы ўсё ж такі прабраліся за кулісы, сустрэліся з Алегам Канстанцінавічам і пагутарылі з ім.

Да пачатку прадстаўлення не так ужо шмат часу, і мы гутарым проста ў грымёрцы. На мае пытанні адказвае чалавек невысокага росту, у светлым джэмперы, з засяроджаным, крыху стомленым тварам, вельмі мала падобны на таго Алега Папова, да якога мы прывыклі. Тут жа, з намі сабака, друг і партнёр выдатнага клоуна.

— Алег Канстанцінавіч, вы пабывалі ў многіх краінах свету. Скажыце, калі ласка, дзе цыркавое мастацтва асабліва паважаецца? Каго вы лічыце лепшымі клоунамі ў нас і за межамі нашай краіны?

— Мне цяжка адказаць на першае пытанне. Відаць, будзе правільна, калі я скажу — усюды. Так, так — усюды. Мне проста не давялося бываць у такіх краінах, дзе да нас ставіліся б абыякава. Мова цырка зразумелая і даступная кожнаму. Дарэчы аб тым, які папулярны цырк, гаворыць, напрыклад, такі факт. Нядаўна мне і маім таварышам давялося пабываць у краінах Паўднёвай Амерыкі. Дык вось, калі мы былі ў Перу, там адначасова гастраліравала пяць цыркаў. І для ўсіх хапала гледачоў, апладысментаў і добрых слоў. Трэба сказаць, што такіх раскошных стацыянарных цыркавых памяшканняў, як у нас, там няма. Выступалі ў шапіто. Савецкі цырк карыстаўся асабліва вялікай папулярнасцю.

Адным з найвялікшых клоунаў усіх часоў і ўсіх краін я лічу Чарлі Чапліна. Такім марыць быць у ідэале кожны клоун. Хаця называць Чарлі Чапліна толькі клоунам злачынства. Гэта вялікі, непераўзыйдзены артыст. Нават мы, бязбожнікі, молімся на яго.

У Парыжы я бачыў братоў Фратэліні. Гэта так званыя традыцыйныя клоуны з вельмі выразнымі яркімі маскамі, якія зрабілі на мяне вялікае ўражанне. Падабаецца мне і французскі клоун Залата, клоун-сола.

З нашых цыркавых артыстаў мне асабліва блізкі Міхаіл Румянцаў — вядомы пад артыстычным псеўданімам Карандаш. Яго я лічу сваім настаўнікам, хаця вучылі мяне многія. Але, як заўважыў Гётэ, «тыя, у каго мы вучымся, правільна называюцца нашымі настаўнікамі, але не ўсякі, хто нас вучыць, заслугоўвае гэтае імя».

— Калі вы рыхтуеце праграму, на якога гледача вы разлічваеце? Сур'ёзнага, інтэлектуальнага, альбо спецыфічна-цыркавога?

— Я вас зразумеў. Перш за ўсё я разлічваю на гледача, у якога нядрэнна развіта пачуццё гумару. Інакш любая, нават самая смешная праграма, асуджана на правал. Але, на шчасце, пачуццё гумару — з'ява даволі-такі распаўсюджаная. Што ж датычыць спецыфічна цыркавога гледача, аб якім вы гаворыце, дык некаторыя лічаць, што толькі абмежаваныя людзі могуць захапляцца цыркам. Я гатовы пагадзіцца, што *толькі* цыркам захапляюцца абмежаваныя людзі. Але калі чалавек захапляецца *толькі* тэатрам, *толькі* футболам альбо *толькі* музыкай, дык ён, на мой погляд, таксама абмежаваны.

— А што вы лічыце галоўным для клоуна? Толькі быць смешным, любым спосабам быць смешным?



Сапраўдны мастак можа нават з вельмі не смешных сітуацый, як кажуць, «здабываць смех»: размяшчаць факты ў пэўным парадку, разыгрываць іх у хуткім альбо павольным тэмпе, гіпербалізаваць тую ці іншую дэталь. Альбо выступленне клоуна павінна быць пранікнута пэўнымі думкамі, выкрываць тыя ці іншыя заганы, недахопы, высмейваць іх?

— Канечне, калі я рыхтую сваю чарговую праграму, я хачу, каб мяне зразумелі ўсе, і каб было смешна, і, канечне ж, каб кожны жарт меў свой канкрэтны адрас. Я, у асноўным, працую на труках, але кожны трук я выконваю ў імя якой-небудзь думкі. Успомнім хоць бы класічны эпізод з чаплінскага фільма «Новыя часы»: Чарлі павінен паабедаць, не адрываючыся ад працы на канвееры. Калі чалавек не паспявае за спецыяльнай машынай, суп ліецца яму за каўнер, талерка ляпае яго па твары... Чарлі паспешліва есць кукурузу, якая круціцца, як на такарным станку, зноў спазняецца... Гэта ўсё вельмі смешна. Але за смешнымі прыгодамі паўстае жахлівая бяздушнасць механізаванага свету, і глядач не можа не адчуць у сабе пратэсту супраць гвалту і зла.

Так, я за трук у імя думкі. І за ўсякага гледача, таму што развіваць і ўздымаць культурны ўзровень чалавека добры цырк здольны не менш, чым добры тэатр, кніга, музыка.

— Скажыце, калі ласка, Алег Канстанцінавіч, ці бывалі ў вашай практыцы такія выпадкі, калі не хацелася выходзіць на манеж: дрэнна сябе адчувалі, стаміліся, не было настрою альбо проста надакучыла? Бо клоун усяго толькі чалавек.

— Бывалі, бывалі... Сёння, напрыклад.

Алег Канстанцінавіч паказвае забінтаваную руку.

— Учора апёк. Баліць страшэнна. Але я выйду на манеж. Не стану ж я расчароўваць публіку. Ёй жа зусім нецікава, што ў мяне баліць рука.

Мы змоўклі. Усе трое. Нават сабака, друг і партнёр клоуна, які раней час ад часу падаваў голас.

Алег Канстанцінавіч грыміраваўся. І ўсё менш і менш рабіўся падобным на таго чалавека, з якім я пачала размову паўгадзіны назад. І ўсё больш і больш на Алега Папова, да якога мы прывыклі.

— Ведаеце, там, на арэне, пра ўсё забываеш. Неяк быў у мяне такі выпадак: моцна забалелі зубы. Што рабіць? Усё роўна трэба выступаць. І што вы думаеце, толькі зайду за кулісы — боль нясцерпны. Ледзь-ледзь дачакаўся выхаду. Выйшаў на арэну — не баліць. Так што ў суровай неабходнасці заўсёды быць у форме ёсць і свае плюсы...

Раздаліся званкі. Прадстаўленне пачыналася. Я паспяшалася ў залу.

І ўжо праз некалькі мінут бурнымі апладысментамі сустракалі гледачы свайго любімага сонечнага клоуна. І канечне ж, ніхто не ведаў, што ў яго вельмі баліць рука. Хаця, відаць, яна ў яго ўжо не балела.

Ірына ПІСЬМЕННАЯ.

---

# ЯНЫ ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ МАСТАКОЎ



**ДРАЧОЎ Пётр Мікалаевіч.**
Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Ленінградзе. У 1964 годзе скончыў графічнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Пасля заканчэння інстытута працуе мастацкім рэдактарам часопіса «Бярозка». Прыняты ў Саюз мастакоў за ўдзел у рэспубліканскай выстаўцы дзіцячых выданняў 1964 г (ілюстрацыі да кнігі Б. Умецкага «Счастливого всплытия») рэспубліканскай выстаўцы «Мастацтва—дзецям» (серыя ілюстрацый да кнігі Т. Цулукідзе «Голубой факел»), рэспубліканскай маладзёжнай выстаўцы 1966 г. (ілюстрацыі да кнігі Ул. Маякоўскага «Маё адкрыццё Амерыкі»), рэспубліканскай выстаўцы акварэлістаў 1967 г. («Мінскае возера», «Вечар», «Раніца»).



**КАЗАКОЎ Барыс Іванавіч.**
Нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Балахна, Горкаўскай вобласці. У 1964 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Прыняты ў Саюз мастакоў за афармленне спектакляў «Горад на світанні» (Рэспубліканскі тэатр юнага гледача, 1968 г.), «Вернасць» (Гомельскі абласны драматычны тэатр, 1968 г.), «9-я сімфонія» (Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут,, 1969 г.), партрэты рэжысёра У. Маланкіна і мастака А. Зайцава, якія экспанаваліся на рэспубліканскіх выстаўках.



**КРЭПАК Барыс Аляксеевіч.**
Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Падгорнае, Варонежскай вобласці. У 1965 г. скончыў Ленінградскі універсітэт па спецыяльнасці гісторык - мастацтвазнаўца. Прыняты ў Саюз мастакоў за мастацтвазнаўчыя і крытычныя артыкулы, надрукаваныя ў рэспубліканскіх і цэнтральных выданнях.



**МІХАЙЛОЎСКІ Уладзімір Карлавіч.**
Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Бабруйску. Жывапіснае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута скончыў у 1961 г. Прыняты ў Саюз мастакоў за ўдзел у рэспубліканскай асенняй выстаўцы 1962 г. («Разліў - у Заслаўі»), рэспубліканскай выстаўцы маладых мастакоў 1965 г. («Гарадскі пейзаж»), рэспубліканскай асенняй выстаўцы 1966 г. («Вясна», «Стажок»), рэспубліканскай выстаўцы маладых мастакоў 1968 г. («Мінская ЦЭЦ»).



**СВЕНТАХОЎСКАЯ Валянціна Міхайлаўна.**
Нарадзілася ў 1938 годзе ў Мінску. У 1966 г. скончыла жывапіснае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Прынята ў Саюз мастакоў за ўдзел у рэспубліканскай выстаўцы маладых мастакоў 1966 г. («Кнігі», «Нацюрморт»), рэспубліканскай выстаўцы маладых мастакоў 1967 г. («Пагранічнікі»), рэспубліканскай выстаўцы «50 год Савецкай улады» («Ракі», «Часопісы»).

## Васіль ХОМЧАНКА

# НА ТРАЛЕЙБУСНЫМ ПРЫПЫНКУ

АПАВЯДАННЕ

**Даўняя і моцная сувязь існуе паміж беларускімі пісьменнікамі і работнікамі аховы грамадскага парадку. Пісьменнікі — добрыя сябры нашай міліцыі, многія з іх прысвячаюць нялёгкай службе людзей, якія стаяць на варце нашага грамадскага парадку, свае творы. 10 лістапада ўся краіна шырока адзначыла Дзень савецкай міліцыі. Прапануем увазе чытачоў новае апавяданне Васіля Хомчанкі «На тралейбусным прыпынку». Яно — пра будні работнікаў крымінальнага вышуку.**

Я І КАПІТАН міліцыі Чатаў сядзім у прывакзальным скверы на лаўцы і разважляем.

Чатаў кажа:

— Не, браток, з табою не згодзен. Выпадковасць у нашай рабоце — не зусім выпадковасць. Заканамернасць — з'ява звычайная. — Ён усміхаецца. — Каламбур атрымаўся, але гэта так. Увесь час, нават калі ты і не на службе, усё адно настроен на нечаканасць, на нейкую вострую сітуацыю і гатоў прыняць яе як належнае.

Мы дастаем цыгарэты. Прыкурваючы, Чатаў нагінае галаву, і на шыі, з правага боку, я бачу сіняваты пісяг. Я здагадваюся, што гэта і ёсць той след, які пакінуў на ўспамін пра сябе Нерон. Чатаў мне даўно абяцаў расказаць, як ён браў гэтага бандыта.

— Ты ведаеш гэтую справу,— гаворыць Чатаў, —у газеце пра яе нават пісалі. На чацвёртай паласе, у маленькай заметачцы паведамлялі: суд у такім вось складзе прыгаварыў бандыта Матузіка (Нерона) А. А. да расстрэлу. Бачыў?

— Бачыў,—адказваю я і разумею, чаму так здзекліва азваўся капітан пра тую заметку: там названы прозвішчы суддзяў, пракурора, сакратара і адваката, але ж не знайшлося месца, каб успомніць тых, хто браў гэтага Матузіка.

— Справа пачалася з забойства, — Чатаў бліжэй падсунуўся да мяне. — У прыгарадным парку стрэлам у патыліцу быў забіты малады хлопец. Якраз на тэрыторыі нашага раёна. За пошукі злачынцы ўзяліся таварышы з крымінальнага вышуку. Ім на дапамогу быў падключаны і я... Маці забітага на допыце паказала, што ў сына ўзяты шэсцьдзесят рублёў, наручны гадзіннік і вельветавая куртка. «Новенькая, цёмна-зялёная. Нядаўна сама пашыла. Гузікі з трыма зрэзамі кожны, ад свайго паліто перашыла...»

Буфетчыца паркавага павільёна расказала, што гадзін у адзінаццаць (якраз у той час і адбылося забойства) у павільён заходзіў піць піва хлопец гадоў дваццаці пяці. Сярэдні рост, камлюкаваты, у плашчы-балонні. «Толькі гэты хлопец і заходзіў?» — спыталі яе. «Не, людзей пабывала многа, але мне ён запомніўся». «Чаму?» Буфетчыца пацінула плячыма: «Піва выпіў скоранька, падаў дзесятку, спытаў, ці даўно я адчыніла сваю забягалаўку. А я толькі буфет адчыніла і ледзь наскрабла яму грошай на рэшту». Які ён у твар, што асабліва прыкметнага ў ім, буфетчыца, як ні моршчыла лоб, не ўспомніла. Адно даводзіла, што шыракаплечы, у плашчы, а пад плашчом вельветавы зялёны пінжак.

На другі дзень, калі я сядзеў у сябе ў аддзеле, — званок. Пазваніў з аўтавакзала старшына міліцыі Краўчанка. «Хлопца на аўтавакзале бачыў, — сказаў ён. — П'янаваты быў, чапляўся да дзяўчыны. Затрымаў, праверыў дакументы. Лебедзеў Іван Іванавіч, студэнт з Ленінграда. Паўшчуваў яго і адпусціў».

— І ўсё? — спытаў я. «Не, не ўсё. Калі я адпусціў яго, падышла жанчына, буфетчыцай у парку працуе, і сказала, што гэта той самы, што ў яе піва ўчора піў. Толькі цяпер ён апрануты інакш — без плашча і вельветавага пінжака. У світары быў».

Я зараз жа сустрэўся з Краўчанкам і буфетчыцай. «Які ён, апішыце падрабязны партрэт», — прашу іх. «Хлопец здаровы, з дужай караткаватай шыяй. Валасы светларусыя, — успамінаў старшына.— Вочы? Не памятаю, які колер».

Звязаліся з Ленінградам, папрасілі праверыць гэтага Лебедзева Івана Іванавіча, дзе ён, адкуль, хто такі. Сядзім у маім кабінеце, абгаворваем гэты факт. І тут заходзіць у аддзел міліцыі хлопец, называе сябе Лебедзевым Іванам Іванавічам. Паказвае пашпарт і кажа, што ён прыехаў на тры дні з Ленінграда і што ў яго ў тралейбусе сёння раніцай укралі з кішэні запісную кніжку, у якой былі студэнцкі білет і дваццаць чатыры рублі.

Старшына Краўчанка пацвердзіў, што гэты Лебедзеў не той, якога ён затрымліваў на вакзале. Ды мы і самі бачылі, што не той: худы, цыбаты, без двух пальцаў на левай руцэ.

«Каля мяне на тралейбусным прыпынку цёрся нейкі шкет з доўгай грывай, — расказаў Лебедзеў, — ён, мабыць, і сцягнуў».

Лейтэнант з нашай групы пасадзіў Лебедзева ў машыну, і яны паехалі па тралейбусных маршрутах, прыглядваючыся да тых, хто стаіць на прыпынках. Ездзілі, ездзілі, і на вакзальнай плошчы Лебедзеў заўважыў таго грывастага шкета. Затрымалі яго, прывезлі ў аддзел. Пры вобыску ў машыне ў яго знайшлі запісную кніжку і грошы. Дваццаць рублёў. Круціўся, вярцеўся кішэннік, але прызнаўся ў крадзяжы. «Студэнцкі білет аддаў Нерону». — «Якому Нерону?» Кішэннік сказаў, што ён сам не ведае, хто такі Нерон, але яго так усе «свае» называюць. Нерон аднекуль прыехаў сюды нядаўна. «Ён убачыў, што я выцягнуў запісную кніжку, падышоў і спытаў, ці ёсць дакументы. Я яму і аддаў студэнцкі білет. Усё адно выкінуў бы».

Кішэннік у даволі агульных рысах назваў прыкметы Нерона: плячысты, у светлым світары... Шыя кароткая. І ўсе гэтыя прыкметы супалі з тымі, што называлі буфетчыца і Краўчанка.

І вось тут інтуіцыя, якая, брат, не адзін раз мяне вывозіла, падказала версію: забіў студэнта гэты самы Нерон. І зялёны пінжак, і паводзіны яго ў павільёне — кожнае каліва звестак пра яго — склалі ўнушальнае перакананне, што Нерон забойца...

Расследаванне гэтай крымінальнай справы, як я ўжо гаварыў, вялося групай. Правяралася, бясспрэчна, не толькі версія з Неронам, а і іншыя версіі. Але ж Нерон быў у цэнтры нашых пошукаў.

Партрэт яго мы мелі прыблізны: шырокія плечы, кароткая шыя. У асноўным гэта былі звесткі пра рост, камплекцыю, узрост. А вось такіх падрабязнасцей, як форма галавы, які рот, вушы, вочы, падбародак, мы не мелі. У такіх выпадках у тваёй памяці не складзецца выразны партрэт. І, скажам, калі прыглядаешся да людзей на вуліцы, то спыняеш увагу толькі на тых, хто мае кароткую шыю і шырокія плечы.

Прайшло тры дні, у горадзе ціха, і раптам налёт на кафэ. Якраз перад закрыццём на абедзенны перапынак зайшлі двое. Падступілі да касіркі, нібы выбіць чэкі, і ціхенька ёй: «Грошы!» А з рукава пісталет нацэлілі. Касірка самлела ад страху, нават не пікнула. Выклала ім трыста дваццаць рублёў. Падняла лямант толькі тады, калі рабаўнікі выйшлі з кафэ. Збегліся кухары, прыбіральшчыцы, спачуваюць, абураюцца. Дырэктарка кафэ ўсумнілася: гэта ж не Амерыка, каб сярод белага дня рабаваць. «Хто бачыў?» — спытала яна ў наведвальнікаў. А іх было ўсяго шэсць чалавек — жанчыны ды стары адзін з хлопчыкам. Тыя разводзяць рукамі, кажуць, што падыходзілі да касіркі нейкія двое, але што там адбылося, не звярнулі ўвагі.

І ўсё ж адна бачыла. Сядзела яна каля акна, сёрбала са шклянкі кефір, і яе выцвілыя ад гадоў, але зыркія вочы нічога не ўпусцілі.

Мы прыехалі ў кафэ хвілін праз дваццаць пасля здарэння. «Вось, разбірайцеся, — паказала дырэктарка на зарумзаную маладзенькую дзяўчыну, — кажа, што яе абрабавалі. — І да касіркі: — Не дакажаш — вылічым з зарплаты».

Прысеў я да старэнькай, што ўсё бачыла, пагаварыў. Сапраўды, былі двое, адзін з забінтаванай шчакой — відаць, балелі зубы. («Прыкрыў твар наўмысна», — падумаў я). Гэты забінтаваны быў апрануты ў чорны касцюм і жоўтыя басаножкі, маладзенькі, чарнявы, з чорным пушком на губах. Другі, які паказаў пісталет з рукава плашча, — сярэдняга росту, каржакаваты, моцны хлопец. Апрануты ў сіні плашч-балонню.

Там жа ў кафэ я гутарыў з касіркай, з наведвальнікамі. І пачаў запісваць усё, што яны паспелі заўважыць з партрэтных рысаў злачынцаў. «Вочы ў таго, які быў у плашчы, — светла-сінія. Нос — вось такі, — паказала старая, — прамы. Падбародак уперад выдаўся. Валявы такі падбародак. Шыя кароткая, моцная».

Старая выцягнула са слоіка папяровую сурвэтку, шчоўкнула сумкай і дастала шарыкавую ручку. «Я лепш яго намалюю, — сказала яна. — Профіль я запомніла добра». Схілілася над сталом і давай чыркаць па сурвэтцы. Я сачу. Рысачка за рысачкай, і, як у праявіцелі на фотапаперы, пачаў з'яўляцца партрэт чалавека. Выразны, дакладны профіль. А старая сухенькая рука ўсё выводзіла, удакладняла. Потым жанчына кінула сваю ручку ў сумку, сказала: «Вось, калі ласка. Гэта ён. Анфас яго, прабачце, запомніла горш». Як потым высветлілася, жанчына гэта была мастачка.

З малюнка мастачкі зрабілі фотакопіі. Выклікалі Краўчанку, паказалі некалькі розных картак і фотакопіі малюнка. «Каго пазнаеш?» Старшына тыцнуў пальцам у малюнак. «Вось той, якога я адпусціў на вакзале». — «Не памыляешся?» — «Не», — цвёрда запэўніў Краўчанка. Паказалі і буфетчыцы. Тая не так упэўнена, але прызнала на малюнку таго, хто прыходзіў у павільён па піва. А кішэннік сказаў коратка: «Нерон».

Нам стала лягчэй. Партрэт Нерона быў у нашых кішэнях. Цяпер у маёй памяці, як сляды на гліне, запалі яго рысы: галава крыху прыплюснутая, амаль як у брахіцэфала, профіль увогнуты, з выступаючым падбародкам і ілбом... Ідзеш па вуліцы, слізгаеш позіркам па стрэчных тварах, да мітусні ў вачах прыглядаешся і раптам як маланкай праніжа: стой! Брахіцэфал! Ён. Разгледзіш уважліва — не, не тое...

Абвяшчаюць пасадку на наш цягнік. Я і Чатаў паднімаемся з лаўкі і ідзём на перон, таўчэмся ў тунелі. У паўпустым вагоне сядаем каля акна. Следам за намі ўсыпаецца чарада дзяцей, а за імі цяжка ўлазіць з немаўляткам на руках друзлая жанчына — маці гэтага вывадку.

— Усе вы тут? Шасцёра? — пытае яна галасна на ўвесь вагон.

Чатаў пазнае жанчыну — калісьці, гады тры назад, яна стукнула абухом свайго мужа-забулдыгу.

— Забіла? — пытаю я.

— Не, аглушыла. У стане афекту. Справу спынілі. А муж пасля гэтага піць перастаў. І вунь яшчэ аднаго на свет пусцілі...

Чатаў, відаць, не хоча, каб жанчына яго пазнала, таму на яе больш не азіраецца. Свой расказ пра Нерона ён працягвае, калі цягнік рушыў далей.

— Пра тактыку, пра ўсю гэту механіку пошукаў Нерона я не буду гаварыць. І не гэта галоўнае ў маім расказе... Той сёмы дзень следства быў для мяне нейкі цяжкі і бязладны з самай раніцы. За ўсе восем гадзін службы амаль не прысеў. Нешта тады ў мяне ўсё не ладзілася. Насмыкаўся за дзень, патрапаў нервы, стаміўся так, што ажно ў скронях гняло. У дзевятнаццаць гадзін пайшоў дамоў. Рашыў: прыйду дадому, павячэраю і адразу засну. Хоць адасплюся. Адключуся ад усялякіх Неронаў і іншай нечысці, што свет белы засланіла мне... Іду па вуліцы, не спяшаючыся, настрой паганы, на людзей глядзець не хочацца. А тут яшчэ нейкая дурная кабета пляцецца ззаду і амаль на ўсю вуліцу крычыць малому: «Не замоўкнеш, у міліцыю здам! Таварыш міліцыянер, забярыце яго!» Азірнуўся — адукаваная жанчына, на штрыфелі пінжака — інстытуцкі ромбік.

Была восьмая гадзіна вечара. Тратуары забіты людам. На астаноўцы спыняюся, каб пад'ехаць на тралейбусе. Адзін падышоў, другі — не ўціснешся. Пасажыраў столькі, што дзверы ледзь адчыняюцца. Нарэшце падыходзіць больш свабодны. Падступаюся да задніх дзвярэй. Але дзверы толькі рыпнулі і не адчыніліся. Націскаю на іх, і ў гэты момант падсвядома адчуваю, што зверху нейчы позірк свідруе маю галаву. Паднімаю вочы — Нерон! Стаіць у тралейбусе да мяне бокам, праўда, не каля самых дзвярэй. Тралейбус рушыў. Бягу да вадзіцеля, загадваю спыніцца. Той спыняецца і адчыняе заднія дзверы.

Я крычу пасажырам, якія згурбіліся на задняй пляцоўцы: «Вы чаму парушаеце? Чаму дзверы затрымліваеце?» Пасажыры адзін на аднаго азіраюцца і маўчаць. Маўчыць і Нерон. «Вы, грамадзянін, вы», — паказваю я на яго — мне абы прычапіцца. Той пацінуў плячыма: «Я не стаяў каля дзвярэй». — «Выходзьце, вы парушылі правілы эксплуатацыі тралейбуса», — патрабаваў я. А сам уважліва разглядаю яго твар, нос, лоб... Успамінаю малюнак на сурвэтцы. Брахіцэфал. Ён, канечне, і вочы сіняватыя. Прыкметы супадаюць. Яшчэ раз патрабаваў выйсці. Не выйшаў. Непакоюся, хоць бы не западозрыў нешта большае, хай думае, што прычапіўся з-за гэтых дзвярэй. Нерон глядзіць на мяне холадна, пранізліва. Вузкія губы яго сціснуты.

«Вы парушальнік. Плаціце штраф. (А за гэта штраф не прадугледжан). Згодна з артыкулам пятнаццатым правіл руху пасажырам забараняецца зачыняць дзверы», — тупа і ўпарта паўтараю я. Безумоўна, у вачах пасажыраў я быў смешны і дзікаваты ў сваёй ўпартасці і неадчэпнасці. Большасць пасажыраў, якія стаялі з Неронам, бачылі, што я прычапіўся да яго без падстаў. Нерон дзвярам не перашкаджаў. Уяві маё становішча — зусім незайздроснае. З вакон вагона сыкаюць: «Рабіць няма чаго, прычапіўся!». «Усё адно не выслужышся, маёра не дадуць!»; «Ха-ха, бандыта злавіў, адступіся!» Падышлі яшчэ тралейбусы, дарогі просяць. Людзі з работы едуць, спяшаюцца, стаміліся, злосныя. А я затрымліваю іх, штраф ад парушальніка патрабую.

Я кажу Нерону: «Выходзьце, заплаціце штраф, а потым паедзеце». Гавару спакойна, нават дружалюбна. Злавесная ўсмешка трымціць на вуснах Нерона: не верыць. Падазрае, што прычапіўся нездарма. Мяне ён не баіцца, бачу гэта па яго вачах. У яго, канечне, зброя, пісталет «ТТ» — з «ТТ» ж застрэлены хлопец. І можа нават і ў гэты момант палец Нерона ляжыць на спускавым кручку.

Азіраюся па баках — хоць бы міліцыянер які ці дружыннік. Шапнуў бы, каго затрымліваю. Няма. Сітуацыя недарэчная. Ну, выйдзе Нерон, заплаціць штрафу палціннік, а далей што? Паспрабую браць — будзе страляць. А я ж страляць у такім натоўпе не буду.

Нервы і настрой пасажырам я сапсаваў. Я разумеў людзей, спачуваў ім і хацелася крыкнуць: «Таварышы дарагія, у тралейбусе бандыт!» Але крычалі мне і ўсё больш і больш абразліва. У акно тралейбуса высунуўся падпалкоўнік-авіятар і пачаў сароміць мяне: «Таварыш капітан, мне за вас сорамна, вы ганьбіце міліцыю».

Яшчэ стаім хвіліну. Яна мне вечнасцю здаецца. Упэўніўся канчаткова, што гэта Нерон. Папрасіў дзяўчыну, якая бліжэй за ўсіх ад мяне стаяла, каб пазваніла ў міліцыю. Дзяўчына фыркнула і адышла.

Нерон, нарэшце, зварухнуўся і саскочыў з прыступкаў вагона на асфальт. Правая рука яго ў кішэні. Я непрыкметна расшпіліў сваю кабуру.

Тралейбусы паехалі, пасажыры так і не даведаліся праўды. Для іх я застаўся ўпартым і тупым «мільтонам», які немаведама за што чапляецца да людзей.

«Вы чаму затрымлівалі дзверы? — стараюся я выйграць яшчэ некалькі хвілін і разглядаю яго.— Нерон, ён самы».

«Я не затрымліваў дзверы, я не стаяў нават каля іх», — гаворыць ён. Голас прыемны, мяккі такі барытон. Аксамітны. Мабыць, хораша спявае пад гітару. Рука белая, з доўгімі пальцамі музыканта. Пінжак чорны, чырвоная кашуля. Звычайны хлопец, і нішто сабе з выгляду. Дзяўчатам такія мацакі падабаюцца. Таму яны і спачуваюць яму, стаяць вакол нас і просяць: «Адпусціце вы яго, таварыш капітан». — «Адпушчу, вядома». А сам рашаю: «Трэба схапіць за рукі». Ступаю бліжэй. Нерон насцярожліва робіць крок назад.

Іду на хітрасць, дастаю з сумкі розныя паперы, кажу: «Плаціце штраф — пяцьдзесят капеек»,— а сам быццам выпісваю квітанцыю, хоць квітанцыі не трэба выпісваць, яны гатовыя ёсць. Нерон лезе левай рукой у кішэню і выцягвае адтуль рубель, падае дзяўчыне, каб тая перадала мне: Не выйшла, хітрасць маю Нерон разгадаў.

Падышоў чарговы тралейбус. Людзі, якія стаялі вакол нас, кінуліся ў вагон. Нерон гэта скарыстаў імгненна. Ён сігануў за тралейбус і пабег па плошчы. Я кінуўся за ім у пагоню. Услед зарагаталі, закрычалі: «Лаві, трымай!» Хтосьці аб'явіў на ўсю астаноўку, што безбілетніка ло-



# ТАМ, ДЗЕ ВУЧЫЎСЯ КУПАЛА

Гэту вёску цяжка адшукаць сярод цёмных лясоў, сінявокіх азёр. Яна, здаецца, заблудзілася ў сасновых барах, абмытая асеннімі дажджамі, прапахлая баравікамі. Сумна звоняць меднымі званкамі коні, што пасуцца блізка на лузе.

Беларучы. Паэтычныя магістралі і сцяжыны лятуць на крылах паэзіі сюды, дзе вучыўся Янка Купала.

Зусім нядаўна шырокі тракт злучыў вёску з шашой Мінск—Лагойск. Па новым гасцінцы бягуць аўтобусы, таксі, спяшаюцца экскурсанты, турысты. Вучні, настаўнікі, хлебаробы— яны едуць сюды, каб засведчыць сваю шчырую пашану песняру. Беларуцкай сярэдняй школе імя Янкі Купалы часта прыходзіцца прымаць гасцей. У кнізе наведвальнікаў музея яны пакідаюць не толькі запісы, але і вершы. Вось Сяргей Грахоўскі падараваў школе верш, навеяны беларуцкімі мясцінамі. Дзесяцікласніца Наташа Сабіна на адным з вечароў паэзіі натхнёна чытала яго:

Вербы вячыстыя ў Вячы
Белыя ручкі купалі,
З песняй тужлівай і плачам
Тлела кастрамі Купалле.

Некалі ў прыцемках шэрых
І на туманным світанку
Моўчкі выходзіў на бераг
Хлопчык зажураны Янка...

Чытала дзяўчынка... А прысутныя ведалі—быў 1897 год. Лютая зіма. Бацька прыводзіў маленькага Янку ў Беларучы: няхай вучыцца. Ніхто не думаў, не здагадваўся, што хлопчык у сялянскім кажушку, падпяразаны звычайнай дзягай, стане нацыянальным паэтам.

Купалу пашчасціла закончыць пачатковае вучылішча—адзінае ў воласці. Сёння ўявіць нават нельга: на ўвесь раён—адна пачатковая школа. Затое ў Беларучах высіліся дзве царквы і карчма. «Вучыцца не абавязкова, селянін можа пражыць без граматы, а вось без малітвы яму тугавата»,—меркавалі царскія чыноўнікі.

Галоўным прадметам у вучылішчы быў закон божы. Вёў яго свяшчэннік Былінскі. Кожную суботу прыходзіў у клас і вучыў тоўстай лінейкай «слову божаму».

Праўда, страчаліся і прагрэсіўныя настаўнікі, як Тургановіч Мікалай Фёдаравіч, Мігай Сцяпан Васільевіч, Грыцько Аляксандр Іванавіч. Яны вучылі дзяцей роднаму слову, геаграфіі. Вучылі любіць бацькаўшчыну, шматпакутную беларускую зямлю, якую інакш не называлі царскія чыноўнікі, як «Паўночна-Заходні край». Купала вельмі любіў слухаць Тургановіча. Дзеці прыціхалі, калі ён пачынаў гаварыць пра родную зямлю, яе пушчы і азёры, яе бясконцыя багацці. Забывалі, што рукі-ногі стынуць ад холаду...

Гэта ім, сваім сапраўдным педагогам, гэта і ім, простым людзям Беларуч, кляўся паэт служыць сваёй песняй.

— Я не для вас, паны, о не!
А для тых цёмных, нешчаслівых,
Ад іх і водгаласак мне
Прымчыцца па лясах, па нівах,
А не ад вас, паны, о не!

У Беларуцкай школе ўпэўнены што вясковая гара Каменіца ад радні той гары, якую Купала апісвае ў паэме «Курган». Кажуць людзі, што напраўду стаялі тут харомы нейкага злога князя. І сёння ёсць прыкметы грандыёзнага збудавання, мабыць, замка. Кажуць, год дваццаць назад на гары можна было ўбачыць яшчэ разваліны пабудовы.

Заглянем у купалаўскі музей. На фоне беланожак-бярозак, нацыянальных арнаментаў—партрэт паэта. Карпатліва сабраныя кнігі, успаміны землякоў, стэнды музея—усё жыве Купалам, яго песняй.

Шмат старання прыклала настаўніца беларускай літаратуры Яўгенія Антонаўна Жылановіч. Перапіска і цёплыя сустрэчы з супрацоўнікамі мінскага музея Янкі Купалы, збор фактаў, запіс расказаў старажылаў, гутарка з Тодарам Вартамскім, які вучыўся разам з Янкам Купалам,—усё яе клопат. Дарэчы, Тодар Вартамскі расказваў, што адзін з выкладчыкаў прыходзіў у клас падвыпіўшы, біў вучняў за тое, што не ведалі ўрока, давяраў навучанне Янку Купалу, а сам ішоў да местачковага папа альбо пісара апахмяляцца.

Яўгенія Антонаўна Жылановіч прывіла дзецям шчырую любоў да роднай літаратуры, да матчынай мовы. Пры паступленні ў вну выпускнікі школы пішуць сачыненні на вольныя тэмы, абавязкова ўвязваюць іх з творчасцю Я. Купалы.

Так, студэнтка інстытута замежных моў Ніна Кульш на ўступных экзаменах пісала пра тое, як ствараўся купалаўскі музей. Расказвала, як арганізоўвалі і шукалі матэрыялы для кожнага з дзевяці стэндаў, прысвечаных жыццю славутага песняра, як запісвалі цікавыя ўспаміны старажылаў, адшуквалі рэдкія фатаграфіі.

Зараз і настаўнікі, і вучні мараць аб пабудове новай школы, а на месцы сённяшняй драўлянай десяцігодкі хочуць зрабіць купалаўскі музей. Гэтае высакароднае пачынанне падтрымліваюць і супрацоўнікі музея Янкі Купалы, і Ядзвіга Юльеўна Раманоўская—пляменніца паэта, і пісьменнікі, якія наведвалі чароўныя беларуцкія мясціны, дзе вучыўся паэт, — усе, каму дарага слова Янкі Купалы.

...Сучасныя Беларучы. Яны не падобныя на тыя, пра якія любяць баяць бабулькі. Пра мінуўшчыну расказваюць ахвотна дзеля таго, каб памятала моладзь, як жылі калісьці, каб умела цаніць сённяшні дзень. Купала зрабіў шмат, каб гэты дзень быў светлы.

**В. ШЫРКО,**
**Г. ЗЯНЬКОВІЧ,**
студэнты БДУ.

НА ЗДЫМКУ — у Купалаўскім музеі ў Беларучах.

## У ЛІК БУДУЧАГА ГОДА

Калектывы прадпрыемстваў і арганізацый кніжнага гандлю Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку, разгарнуўшы сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXIV з'езда КПСС, датэрмінова выканалі пяцігадовы план і цяпер працуюць у лік 1971 года. План рознічнага тавараабароту ў трэцім квартале гэтага года арганізацыямі кніжнага гандлю выканан на 101,5 працэнта, у тым ліку па кнізе на 103 працэнты. Прададзена літаратуры звыш плана на суму 80,6 тыс. рублёў.

Па выніках усесаюзнага спаборніцтва за трэці квартал 1970 года калектыву Мінскага аблкнігагандлю прысуджаны пераходны чырвоны сцяг Камітэта па друку пры Савеце Міністраў СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры з уручэннем першай грашовай прэміі.

У рэспубліканскім спаборніцтве ў трэцім квартале лепшых вынікаў дасягнуў калектыў Магілёўскага аблкнігагандлю, якому ўручаны пераходны чырвоны сцяг Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і БРК прафсаюза работнікаў культуры.

## У КАМУНІСТАЎ САЮЗА МАСТАКОЎ БССР

2-га лістапада ў Саюзе мастакоў БССР адбыўся справаздачна-выбарчы партыйны сход. Камуністы заслухалі справаздачны даклад аб рабоце партыйнага бюро, які зрабіў сакратар бюро Ул. Стальмашонак. Выбраны новы склад бюро. У яго ўвайшлі: народны мастак БССР І. Ахрэмчык, С. Герус, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. Грамыка, А. Гугель, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Гуціеў, народны мастак БССР Я. Зайцаў, К. Кітаеў, народны мастак БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі С. Селіханаў.

Бюро выбрала сакратаром партбюро С. Селіханава, намеснікамі сакратара—Я. Зайцава і К. Кітаева.

## АБМЕРКАВАННЕ ВЫСТАЎКІ «50 ГОД ЛКСМБ»

5-га лістапада ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея БССР Саюз мастакоў Беларусі наладзіў абмеркаванне рэспубліканскай выстаўкі «50 год ЛКСМБ».

У дакладах Б. Крэпака пра жывапіс, Ул. Бойкі пра графіку, А. Сурскага пра скульптуру, Ф. Валадзько пра дэкаратыўна-прыкладное мастацтва былі прааналізаваны здабыткі і выдаткі гэтай выстаўкі. Дакладчыкі звярнулі ўвагу на няроўнасць яе, на тэматычную стракатасць. Яны адзначылі высокі прафесійны ўзровень некаторых работ, падкрэслілі, што толькі на аснове глыбокага засваення класічнай спадчыны магчымы сапраўды наватарскі эксперымент у мастацтве.

У спрэчках выступілі Л. Лейтман, М. Гуціеў, А. Шыбнёў, А. Малішэўскі, М. Смірноў, Г. Паплаўскі, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. Грамыка.

Ад імя ЦК ЛКСМБ падзякавала мастакам за арганізацыю выстаўкі Н. Крыжаноўская.

вяць.

Я бег і бачыў толькі шырокія плечы Нерона. Вось ён перасек плошчу і зараз нырне за вугал дома. Я вірую між машын, як акрабат. Пісталет трымаю ў руцэ. Нерон у двор, я—за ім. Там ён знік, як скрозь зямлю праваліўся. Ага, пераскочыў цераз мураваную агароджу, на другі двор.

Я добра ведаў той двор і ўсе яго закуткі, таму абабег дом, які будаваўся. Двор бязлюдны. Левую палову я ўсю бачу, правую — не. Але там навукова-даследчая ўстанова, абнесеная высокай агароджай. Там вахцёр і сабака. Туды Нерон не палезе, кінецца сюды, да будаўнічай пляцоўкі.

Я схаваўся ў пад'ездзе. Так і здарылася: Нерон бег да мяне. Паміж намі — гурбы цэглы і дошак. Я зрабіў памылку, што не даў Нерону прабегчы гэтыя гурбы. Я крыкнуў трохі раней, чым трэба: «Стой!» Нерон упаў, як рысь, упаў за цэглу і стрэліў. Куля ляснула ў сцяну над маёй галавой, вяршкі на два ўсяго вышэй...

Цяпер мы паднялі забралы, выйшлі на адкрыты бой. Абодва са зброяй, абодва гатовыя на ўсё. Разысціся мірна мы ўжо не маглі.

Далей ад нас, у куточку двара, шчабечуць дзеці, дзяўчынка цераз вяровачку скача, смяецца, бабуля сядзіць, нешта вяжа на прутках. На стрэл не звярнулі ўвагі —, мабыць, падумалі, што гэта аўтамабіль стрэліў. Каму прыйдзе ў галаву, што ў такі час двое вядуць смяротную дуэль.

Я крыкнуў: «Нерон, здавайся!»

Маўчанне.

Першы ён не ткнецца, я гэта ведаў. Наступаць трэба мне. Гэта значыць, трэба прабегчы гэтыя тры дзесяткі крокаў туды, за штабель цэглы.

Я прыўзняўся, крыху высунуўся з-за касяка дзвярэй. І ўбачыў каля штабеля цэглы рухомы цень. Нерон сядзеў на кукішках. Выдатна, я магу назіраць за ўсімі яго рухамі. І тут, як маланка, мільганула думка: раз Нерон мяне не бачыць — ён нешта корпаўся ў кішэнях, — падбягу да штабеля. Я пабег.

Не разумею і цяпер, чаму так позна зрэагаваў Нерон на маю перабежку. Ці ён не чуў майго тупату, ці падумаў, што нехта іншы бяжыць, а не я?

Мы стрэлілі адзін у аднаго адначасова. Памятаю, як неба раптам блiснула чорным, як апаліла мне шыю. Куля мая трапіла Нерону ў плячо. Пасля стрэлаў мы стаялі нейкі міг адзін перад адным за шэсць крокаў (пасля я мераў — роўна шэсць), як бы загіпнатызаваныя. Бываюць жа вось такія секунды. А каб схапіцца, кожны з нас павінен быў зрабіць па тры крокі. Мы зрабілі і схапіліся...

Поезд спыняецца. Справа, між галін дрэў, бліснула шырокая сіняя роўнядзь вадасховішча, белы, як лебедзь, кацер на ім, жоўтыя выспы, нерухомыя чорныя постаці рыбаловаў на беразе. Міжвольна хочацца разбегчыся і проста з вагона боўтнуцца ў гэтую сінюю вадзяную масу. Чатаў здымае гальштук, расшпільвае кашулю і маўчыць.

Пра канец гісторыі з Неронам я ўжо ведаю. Чатаву тады памог шафёр самазвала, які прывозіў на будоўлю цэглу.

...Цягнік кранаецца. Чатаў высоўваецца ў акно, яму хочацца даўжэй палюбавацца морам, і я зноў бачу ў яго на шыі пісяг, сіні з чырванаватымі краямі.

«Крыху вышэй трапіла б — і ўсё», — думаю я.

— Цяжкі ў вас быў паядынак,— спачуваю я Чатаву. — Адзін супраць узброенага бандыта.

Капітан перапыняе мяне.

— Ат, паядынак, як паядынак. І ў Нерона, і ў мяне былі шанцы роўныя. У сваім жыцці страчаўся і не з такімі выпадкамі. Самыя прыкрыя і цяжкія хвіліны ў гэтай гісторыі былі на тралейбусным прыпынку. Вось там, сярод людзей. Нерон меў вялікую перавагу. Ён мог страляць, а я не. Да таго ж людзі, не ведаючы справы, былі на баку Нерона. Мяне ж лічылі несправядлівым служакам, які з-за дробязі прычапіўся да чалавека. Вось што крыўднае ў гэтай гісторыі...

Чатаў уздыхае і доўга маўчыць.



Цікава было сустрэцца першакурснікам Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі з паэтам-песеннікам Адамам Русаком, які сорак пяць гадоў таму назад вучыўся ў гэтым вучылішчы. Паэт расказаў студэнтам пра свой творчы шлях, чытаў новыя вершы.

На гэтай сустрэчы і зроблены здымак.

Фота Ул. КРУКА.

спектывы з праўдай факту, увасабляць ідэал у гістарычна канкрэтных, праўдзівых вобразах, раскрываць мару ў паказе рэальных спраў і імкненняў народа.

Метад сацыялістычнага рэалізму можа быць правільна зразуметы, калі яго разглядаць у арганічнай сувязі з аб'ектыўнай рэчаіснасцю, на аснове пазнання якой народжаны, гэта значыць неабходна разумець яго як гістарычную катэгорыю. Сацыялістычны рэалізм — гэта вышэйшая стадыя развіцця сусветнага рэалістычнага мастацтва, гэта рэалізм нашай эпохі.

Аднак сам па сабе творчы метад, якім бы дасканалым ён ні быў, яшчэ не гарантуе мастакам стварэння на яго аснове абавязкова выдатных твораў. Ён можа толькі даць для гэтага магчымасці, але ўся справа ў тым, ці мае той ці іншы мастак сапраўднае майстэрства, уключаючы ў гэта паняцце майстэрства пазнання рэчаіснасці і майстэрства мастацкага яе адлюстравання. Таму ў творчым працэсе выступаюць як абавязковыя састаўныя часткі яго аб'ектыўны і суб'ектыўны бакі.

Камуністычны светапогляд савецкіх мастакоў дае ім ключ для разумення сутнасці новых з'яў рэчаіснасці, стварэння вобразаў, якія нясуць ёмкі змест сучаснасці.

Мастацкі метад дае магчымасць адбіраць, абагульняць і ацэньваць з'явы рэчаіснасці, жыцця грамадства не па якім-небудзь адцягненым прынцыпе або загадзя распрацаванай схеме, а гістарычна асэнсоўваць у святле важнейшых праблем сучаснасці.

Трэба, аднак, улічваць, што пры разглядзе творчасці асобнага мастака агульная пастаноўка пытання аб суадносінах эстэтычнага ідэалу і творчага метаду, аб адпаведнасці ідэалу рэчаіснасці, з'яўляецца недастатковай і патрабуе чоткай канкрэтызацыі. Бо кожны мастак адлюстроўвае не ўсю рэчаіснасць, не ўсе яе бакі. Ён выбірае тое, што сугучна яго душы, творчаму складу характару, маштабу даравання. Кожны сапраўдны мастак у бясконцай разнастайнасці жыцця бачыць сваё, найбольш блізкае, сугучнае, што ў найбольшай ступені яго хвалюе. Ужо ў самой цікавасці, ва ўвазе да пэўных бакоў рэчаіснасці, пэўнага кола з'яў праяўляецца творчае аблічча мастака, а потым ужо яно праяўляецца ў асаблівасцях індывідуальнага падыходу да ўвасаблення эстэтычнага ідэалу, да раскрыцця з'яў жыцця ў яго своеасаблівых тэхнічных сродках.

Толькі тыя творы абумоўлівалі працэс развіцця мастацтва, у якіх ва ўсёй жыццёвай праўдзе, псіхалагічнай глыбіні і шматбаковасці паўставаў вобраз чалавека. Такія творы заўсёды нясуць на сабе адбітак свайго часу, яны авеяны жывым дыханнем сучаснасці.

І, разам з тым, імкненне ў будучае — адна з важнейшых і самых характэрных рысаў мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

У ходзе будаўніцтва камунізма, у працэсе перарастання сацыялістычнага грамадства ў камуністычнае грамадства мастацтва ўслед за жыццём будзе таксама набываць новыя якасці. У адпаведнасці з гэтым будзе відазмяняцца метад сацыялістычнага рэалізму, становячыся метадам мастацкага пазнання камуністычнай рэчаіснасці.

**Анатолій ФЕДАРАЎ,**
старшы навуковы супрацоўнік
Прэзідыума Акадэміі мастацтваў СССР.
(АДН).

---

та, які раскінуўся на 200 гектарах»... Не тое... «Есць трыста пудоў збожжа з гектара! — рапартуюць хлебаробы калгаса «Звязда» Навагрудскага раёна». Гэта не мой хлеб... «У арганізацыі навуковых даследаванняў маюцца і істотныя недахопы...» Што — недахопы? Ды яшчэ істотныя? Ну, ну, тут, здаецца, штосьці ёсць...»

Ад суму, які толькі што быў напісаны на збуцвелым твары мюнхенскага аглядальніка, не застаецца і знаку. Уваччу пачынаюць курэць нейкія смалякі. Рука цягнецца да пяра.

Праз нейкі час у мутным мроіве вядомай радыёхвалі разлягаецца звонкі брэх... ці то голас пана Косціка. На гэты раз ён «ратуе» Беларускі навукова-даследчы інстытут меліярацыі і воднай гаспадаркі.

Пан Косцік, зразумела, не адразу кідаецца на Савецкую ўладу, намагаючыся расшкуматаць ёй калашыну. Спачатку думка пана Косціка гойсае, як кажуць, улукаткі. Ён і пахваліць нешта, і паспачувае некаму. А там, глядзіш, нават расчулена пасморкаецца ў хусцінку. Ну проста такі ўжо спагаднік, такі ўжо друг-прыяцель беларусаў, што лепшага і не трэба.

Ён лагодна сцвярджае, што калектыў інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі «сваю навуковую работу праводзіць старанна», што ён «ужо 40 год клапоціцца аб меліярацыі, і не тое, што прымітыўнымі спосабамі, а навуковымі». Ну, не дабрадзей, скажаце? Але калі б пан Косцік на гэтым і паставіў кропку, яму не было б чаго рабіць у Обервізэнфельдзе: давялося б перакочваць бочкі ў мюнхенскіх піўных. І ён паспешна — каб, крый божа, шэф чаго не падумаў, — сігае за коску: «...і не тое, што прымітыўнымі спосабамі, а навуковымі, і ў той жа час інстытут не забяспечаны нават вылічальнымі машынамі».

Як жа яны там пакутуюць, гэтыя небаракі вучоныя, без вылічальнай машыны! Гэта ж табе не вухналь ад падковы. Без вылічальнай жа машыны ніяк не можна. Амерыканцы, вунь, у космас сігануді, бомбу якую змайстравалі. І ўсё, браце, таму, што ў іх гэтых вылічальных машын процьма.

У пана Косціка канчаткова псуецца настрой. Яго фантазія рве апошнія гнілыя матузкі аб'ектыўнасці і прэ ўжо нацянькі: «У Беларусі, — крывадушна стогне ён, — знікаюць прыродныя багацці».

...А калі ўзяць артыкул, на якім паразітуе дробны паскуднік з Мюнхена, і прачытаць тое, што ў ім напісана ў сапраўднасці, усё выглядае інакш. Вось ён, артыкул — «Советская Белоруссия» за 2 верасня гэтага года, загаловак — «Быць сучаснікам будучыні». Чытаем:

«Небывала шырокі размах меліярацыйнае будаўніцтва атрымала пасля 1966 года. У рэспубліцы за 1966 — 1969 гады пабудаваны новыя асушальныя сістэмы і перабудаваны старыя, якія не адпавядаюць сучасным патрабаванням, на плошчы 765 тысяч гектараў».

Яшчэ: «Намечаны вялікія перспектывы на будучую пяцігодку. На гэтыя мэты выдзяляецца амаль 1,4 мільярда рублёў капіталаўкладанняў, што ў 2,3 раза больш, чым у бягучай пяцігодцы».

Вось гэтыя вялікія перспектывы і хвалююць пана Косціка, выклікаюць трывогу за лёс беларускай зямлі, якой ён спачатку здрадзіў і якую потым пачаў пускаць у распыл хаця б у сваіх паклёпніцкіх опусах. Трывогу за перспектыву сваіх заробкаў.

А як жа наконт вылічальнай машыны? А наконт вылічальнай машыны пан Косцік проста дапусціў маленькую недакладнасць: у артыкуле **нічога** не гаворыцца аб тым, што інстытут не мае вылічальнай машыны. Ды і як аб гэтым можа гаварыцца, калі Беларускі навукова-даследчы інстытут меліярацыі і воднай гаспадаркі — нам гэта вядома дакладна — мае вылічальную машыну «Прамень» і іншую вылічальную тэхніку!

Ён такі, гэты пан Косцік. Яму збрахаць — што перахрысціцца. Бо ён ужо ўвайшоў у ролю. Ён ужо коўзаецца на мяккім месцы свайго апрытыўнага натхнення. А калі пан Косцік у натхненні, тады ён у сваіх філіпіках не спыніцца, аж пакуль не скажа ўсё дарэшты. Яму — а дакладней кажучы, яго гаспадарам — не да спадобы тое, што савецкі народ працягнуў руку брацкай дапамогі народу В'етнама, які адстойвае сваю свабоду і незалежнасць ад амерыканскіх агрэсараў. Пан Косцік дэмагагічна «спачувае» Савецкай краіне, што яна дзеліцца сваімі матэрыяльнымі і абароннымі здабыткамі з народамі Бліжняга Усходу, якія адбіваюць наступ ізраільскіх захопнікаў.

На Захадзе гавораць: калі збіраешся прыгатаваць смажанага зайца з крадзенай кошкі, перш за ўсё адсячы ёй хвост. Нашаму мюнхенскаму «добразычліўцу» яўна не хапіла розуму, каб пазбавіць свой паклёп ад заакіянскага хваста.

Наогул, дасведчанасць пана Косціка аб савецкай рэчаіснасці напомніла мне адну індыйскую казку. Аб тым, як трое сляпых пазнавалі ісціну, што такое слон. Першы сляпы патрымаўся за нагу жывёліны, другі — памацаў яе за вуха, трэці — палэпаў па хвасце. Калі потым першага сляпога запыталі, што ж такое слон, ён упэўнена адказаў: слон — гэта слуп. Другі запярэчыў: не, слон — гэта лотас. І толькі трэці ўнёс канчатковую яснасць: слон — гэта венік.

Я дакладна не ведаю, за што трымаюцца мюнхенскія прайдзісветы, штодзень галёкаючы ў эфіры. Напэўна ж, не за нагу таго слана. Нават не за вуха...

---

# ЗЛАЧЫНЦЫ АДКРЫВАЮЦЬ МУЗЕЙ...

*Па той бок*

Гэты будынак стаіць у заходнегерманскім горадзе Вупертали, на вуліцы Ам-дэкергойшэн, 32.

Не так даўно рупар колішніх эсэсаўцаў, заходнегерманскі штомесячнік «Дэр фрайвіліге» напісаў пра гэты будынак такое: «Хутка ў дом на вуліцы Ам-дэкергойшэн будуць прыходзіць усе, хто шануе адну з найгераічнейшых старонак гісторыі нямецкай нацыі...».

А справа ў тым, што тут, у Вупертали, адкрываецца музей войск СС. Не, не такі, дзе будуць сабраны сведчанні жахлівых злачынстваў гітлераўскай эліты — эсэсаўцаў, а ўласна музей СС, музей, як бы сказаць, у гонар злачынцаў з добра вядомай свету эмблемай — чэрапам і скрыжаванымі косткамі...

Уласнік таго будынка ў Вупертали Ёст Шнэйдэр быў афіцэрам эсэсаўскай дывізіі «Мёртвая галава» і цяпер аддаў сваё жыллё для размяшчэння тут названага музея.

Нямала жыхароў горада, сярод якіх былі і ахвяры фашызму, выказалі сваё абурэнне паліцай-прэзідэнту Вуперталя Велеру. Ён адказаў, што стварэнне музея варта разглядаць толькі як «прыватную справу» пана Ёста Шнэйдэра, якая не дае падстаў для ўмяшання ўлад і паліцыі...

Цяпер да будынка Шнэйдэра часценька пад'язджаюць аўтамабілі, з якіх выходзяць шыкоўныя паны. Колішнія эсэсаўцы прывозяць для будучага музея розныя экспанаты. Іх сабралася тут ужо столькі, што давялося нават прыстасаваць пад склад і гарышча. У ліку экспанатаў можна пабачыць самыя разнастайныя рэчы: пан Шнэйдэр асабліва радуецца рэчам камандзіра яго дывізіі «Мёртвая галава» групенфюрэра Курта Майера, а таксама камандзіра 1-га танкавага корпуса СС обергрупенфюрэра Ёзефа Дзітрыха. А калі нехта са сваякоў ужо нябожчыка другога Дзітрыха, Зепа, таксама обергрупенфюрэра СС, прывёз сюды яго шматлікія ордэны і медалі, Шнэйдэр узрадаваўся проста неймаверна. Ёсць сярод экспанатаў і асабістая зброя буйных эсэсаўцаў і іхнія штандары, што неяк уцалелі пасля вайны і захоўваліся тымі непакаранымі ваеннымі злачынцамі, але найбольш тут ордэнаў, якімі фюрэр шчодра ўзнагароджваў сваіх паплечнікаў.

Музей ужо гатовы да адкрыцця ў Вупертали,— гэта чарговы акт таго ганебнага фарсу, які ўжо многа гадоў разыгрываюць у ФРГ. Называецца гэты фарс «падагульненнем мінулага», «падвядзеннем рысы пад мінулым».

Сярод усіх жахлівых злачынстваў фашызму самымі жахлівымі былі тыя, што чынілі войскі СС. І Міжнародны ваенны трыбунал у Нюрнбергу запісаў у сваім прыгаворы: «Трыбунал абвяшчае злачыннай групу, якая склалася з асоб, што былі прыняты ў члены СС...»

Аднак ужо праз колькі гадоў першы канцлер ФРГ Конрад Адэнаўэр афіцыяльна заявіў: «Людзі з войск СС былі такімі ж салдатамі, як і ўсе іншыя...»

Гэта быў нечуваны здзек з памяці мільёнаў злачынцаў, гэта была нахабная рэвізія Нюрнбергскага прыгавору. А для саміх эсэсаўцаў словы канцлера азначалі пачатак шырокай і адкрытай рэабілітацыі. Непакараныя верхаводы СС дастойна ацанілі заяву свайго канцлера, як і самую палітыку новай заходнегерманскай дзяржавы. Важак эсэсаўскіх арганізацый, былы обергрупенфюрэр СС Гаўсер, у адказ на словы Адэнаўэра, зрабіў заяву пра «суцэльную лаяльнасць» колішніх ваеннаслужачых СС да бонскай дзяржавы.

11 верасня 1955 года калоны былых эсэсаўцаў, якія сабраліся на свой злёт у горадзе Рэндсбургзе, урачыста прамаршыравалі па яго вуліцах. Са сваімі эсэсаўскімі штандарамі, пры ордэнах, з аркестрам. Узначальвалі калону былыя генералы, групенфюрэры і обергрупенфюрэры, мацёрыя ваенныя злачынцы Гіле, Віш ды Штэйнер, усе трое былі асуджаны перад тым, хто на смерць, хто да пажыццёвага зняволення, але ўсе трое жывыя і цэлыя.

Хутка наяўныя тады ў Заходняй Германіі 59 розных арганізацый колішніх эсэсаўцаў аб'ядналіся ў адну вялікую арганізацыю «ГІАГ». Гэта назва расшыфроўваецца як «Федэральнае таварыства ўзаемадапамогі былых ваеннаслужачых СС». Узначаліў яе ўжо вядомы эсэсаўскі генерал Майер, па мянушцы «Панцырмайер». Друкаваным органам гэтага фашысцкага зборышча стаў месячнік «Дэр фрайвіліге» — «Добраахвотнік».

Урад Конрада Адэнаўэра і заходнія акупацыйныя ўлады праяўлялі ўсё большую прыхільнасць да былых гітлераўскіх галаварэзаў, і ў тых галава закружылася ад поспехаў. І хутка «ГІАГ», наняўшы адвакатаў, звярнулася да ўрада ФРГ... з заклікам! Гаворка ішла не больш і не менш, як аб прызнанні правоў былых ваеннаслужачых СС на дзяржаўныя пенсіі.

І што ж? Эсэсаўскія адвакаты «давялі» ўраду, што на іхніх кліентаў пашыраецца дзеянне артыкула 131 «Асноўнага закона», г. зн. канстытуцыі ФРГ. А той артыкул прызнае пенсійныя правы і ваеннаслужачых, і цывільных дзяржаўных чыноўнікаў гітлераўскага райха, якія былі на службе да 8 мая 1945 года і «пакінулі яе з прычыны неслужбовага характару».

Некаторыя эсэсаўцы, апрача пенсіі, дамагліся гэтак жа і права на дадатковую грашовую кампенсацыю з-за таго, што «позна вярнуліся на бацькаўшчыну». Скажам, сам генерал «Панцырмайер» атрымаў кампенсацыю ў памеры 4800 марак, бо гэтак жа «позна вярнуўся на бацькаўшчыну». Ён сядзеў у канадскай турме, асуджаны да пакарання смерцю за зверскае забойства канадскіх ваеннапалонных, але быў памілаваны і выпушчаны на волю.

Пенсію і дадатковую кампенсацыю атрымаў і вядомы эсэсаўскі генерал Ламердзінг, былы камандзір дывізіі «Дас райх», які зрабіў страшэннае злачынства ў французскім горадзе Арадур.

Заходнегерманскія суды і пракуратура прыпынілі следства па справах многіх былых эсэсаўцаў, абвінавачаных у ваенных злачынствах, масавых забойствах і здзеках з мірнага насельніцтва на акупіраваных гітлераўцамі тэрыторыях Еўропы.

«ГІАГ» і яго бюро ў розных гарадах ФРГ цяпер ужо дзейнічаюць адкрыта і нават зарэгістраваны афіцыйна як «добраахвотныя грамадскія арганізацыі», якія існуюць «у межах канстытуцыі Федэратыўнай Рэспублікі». Пры кожным філіяле «ГІАГ» дзейнічае так званая «служба вышуку». Справа ідзе пра вышук і рэгістрацыю былых салдатаў, афіцэраў, генералаў, а таксама цывільных служачых войск СС. «Служба вышуку», знайшоўшы весткі пра чарговага эсэсаўца, неадкладна пачынае клапаціцца пра пенсію для яго ў выпадку, калі ён яе яшчэ не атрымлівае. У афіцыйным рэестры ФРГ на 1969 год падобных арганізацый у розных гарадах налічваецца каля сарака.

Важакі «ГІАГ» ужо менш гавораць пра «ўзаемадапамогу», цяпер яны разважаюць пра «зберажэнні традыцый», пра «аднаўленне справядлівасці». Але гэта адкрыты рэванш.

Свае «ідэі» важакі «ГІАГ» могуць свабодна выказваць не толькі са старонак часопіса «Дэр фрайвіліге», а і са старонак друкаванай прадукцыі выдавецтва «Мунінферлаг». З друкарні выдавецтва ўжо выйшлі цэлыя серыі кніжак пра «подзвігі» СС, мемуары эсэсаўцаў, біяграфіі такіх, як «Панцырмайер».

Некалькі гадоў назад тагачасны міністр абароны ФРГ Франц Ёзеф Штраўс падпісаў загад, які дазваляе былым ваеннаслужачым СС да оберштурмбанфюрэра (г. зн. падпалкоўніка) уключна служыць у бундасверы, а іхнія былыя званні лічыць цяпер за вайсковыя. І ўжо нямала былых эсэсаўцаў выкарысталі гэты загад.

□

...Заходнегерманскае «Аб'яднанне асоб, што праследаваліся пры нацызме», абуранае рашэннем вупертальскага паліцай-прэзідэнта, звярнулася да міністра ўнутраных спраў ФРГ Геншэра з патрабаваннем забараніць адкрыццё музея СС. Геншэр, аднак, лічыць, што гэта пытанне ўваходзіць у кампетэнцыю міністра ўнутраных спраў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, дзе размешчаны горад Вуперталь. А зямельны міністр цалкам згодны з рашэннем паліцай-прэзідэнта і не збіраецца ўмешвацца ў гэту «прыватную справу» пана Шнэйдэра.

І вось хутка на будынку на вуліцы Ам-дэкергойшэн, 32 можа з'явіцца шыльда: «Музей СС», гэты нахабны выклік непакараных гітлераўскіх злачынцаў.

(«Всесвіт» № 10, 1970 г.).

